# ПАГОНЯ

Чацвер
14 снежня 2000 г.
№ 47 (494)
Кошт 74 рублі


## На кірмашы падарункі танней

**На працягу пераднавагодняга тыдня, з 22 да 30 снежня, у Лядовым палацы пройдзе сьвяточная выстава-кірмаш «Гродна на мяжы тысячагоддзяў».**

Каб палюбавацца шырокім асартыментам тавараў народнага ўжытку, гараджанам давядзецца падцягвацца ўсім у адзін гандлёвы пункт - Лядовы палац. Праўда, арганізатары кірмаша запэўніваюць, што падчас выставы-кірмаша ўсе змогуць набыць самыя разнастайныя падарункі і сюрпрызы пад ялінку для сваіх сяброў і блізкіх. Ва ўпраўленні эканомікі і рынкавых адносінаў гарвыканкама нам паведамілі цікавы факт пра кошты тавараў на кірмашы. Усё будзе прадавацца па стаўках вытворцаў, без гандлёвых накрутак - г.зн. танней, чым у крамах.

Кірмаш будзе адчынены з 10 да 18 гадзін. Патэнцыйным пакупнікам будуць прапанаваныя адзенне, вечаровыя строі прадпрыемстваў «Сілуэт», «Вясёлка», «Дынама-праграм» ды іншых. Будуць прадукты, спіртныя напоі, цыгарэты гарадзенскай вытворчасці.

У праграму выставы-кірмаша таксама ўвойдуць Дзень прамысловасці і Дзень прадпрымальніка.

**Ганна Макоўская**

## Кожны дваццаты – «заяц»

**Сёлета са студзеня па лістапад кантралёры Гарадзенскага аўтапарка N1 аштрафавалі за безбілетны праезд у аўтобусах 6854 пасажыраў.**

Паводле звестак кантрольна-рэвізійнай службы аўтапарка, штрафаў з грамадзянаў спагнана на 9,1 мільёна рублёў. Калі прыкінуць, што аўтобуснікі ахопліваюць адну палову транспарта, а кантрольныя брыгады тралейбуснага ўпраўлення - другую, то да канца года будзе «адлоўлена» каля 14 тысяч «зайцоў». Пасля нескладаных падлікаў атрымоўваецца, што кожны дваццаты пасажыр гарадскога транспарта - «заяц».

Дзве кантрольныя брыгады аўтапарка штодня складаюць каля 20-ці пратаколаў на безбілетнікаў, якія адмаўляюцца з нейкіх прычынаў плаціць штраф. Мяркуючы па такіх лічбах, суды горада заваленыя пастановамі аб спагнанні штрафу ў 10-кратным памеры. Не дзіва, што некаторыя безбілетныя студэнты і навучэнцы вучылішчаў ды тэхнікумаў «адмазваюцца» ад адміністрацыйнага штрафу «з-за адсутнасці сродкаў».

**А.С.**

## Застаўся толькі Гітлер для камплекту

**Сьвіслацкія ўлады задумалі стварыць у цэнтры горада алею герояў. І паставіць там, між іншым, помнік Сталіну.**

Жыхары Сьвіслачы не вераць у гэта, але факт, што рашэнне пра усталяванне помніка было прынятае яшчэ ўлетку на сесіі мясцовага савету. Прычым, амаль аднагалосна. Супраць Сталіна выказаліся толькі два дэпутаты.

Помнік тырану народаў быў знойдзены выпадкова на звалцы блізу вёскі Вердамічы.

Паводле нашай інфармацыі, ініцыятыва ўшанавання памяці Сталіна належыць былому дырэктару мясцовай музычнай школы Тарноўскаму.

**Павал Мажэйка**




14, 15 снежня - воблачна, з праясненнямі, магчымы мокры снег, вецер паўночна-ўсходні, 4-6 м/с. Тэмпература паветра 14, 15 снежня - уначы -2...0, удзень +3...+5.




## Падпішыся на ПАГОНЮ!

**Індэкс індывідуальнай падпіскі - 63124**

**Кошт падпіскі на месяц - 400 рублёў; на квартал - 1200 рублёў**

**Індэкс ведамаснай падпіскі - 63348**

**Кошт падпіскі на месяц - 1200 рублёў; на квартал - 3600 рублёў**

**У кожным паштовым аддзяленні**

## Ганаруся Вамі, чакаю Вас...

Шаноўныя Пагоншчыкі! Ганаруся Вамі, чакаю Вас, купляю або выпісваю Вас. Хоць сама і жыву ў Менску, але душою на Гарадзеншчыне, дакладней - на Зэльвеншчыне. У кожную вольную хвіліну думаю пра яе ў сваіх лінгвістычных замалёўках, аматарскіх вершах, бяру ў дыпломнікі толькі дзяцей з Гарадзеншчыны, ганаруся, што я сама адтуль. Зычу Гарадзеншчыне не здавацца і квітнець! Думаю, што некалі вярнуся туды, каб аддаць ёй свой апошні доўг. ПАГОНЮ выпісваю або купляю не толькі я - выпісвае, дзякуй Богу, і кафедра беларускай мовы ў Менскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце. Зычу Вам, мае дарагія Пагоншчыкі, усяго таго, чаго заслугоўвае Чалавек - шчасця, дабрабыту і здароўя!

**Алена Таболіч, г.Менск**

## Увага, аматары беларускага року!

**16 сьнежня а 18-й гадзіне ў Палацы культуры хімікаў - канцэрт «Вольныя Танцы». Выступаюць «Крама», «Нейра Дзюбель», «Кальян», «Твар». Кошт квіткоў - 2000 і 2500 рублёў. Слухай сваё!**

16 сьнежня з 14-й да 15-й гадзіны ў рэдакцыі ПАГОНІ адбудзецца жывая тэлефонная лінія з гуртамі «Крама» і «Нейра Дзюбель».

Той, хто задасьць найбольш цікавае пытаньне, атрымае кампакт «Вольныя Танцы» з аўтографамі гуртоў, а таксама запрашальны квіток на канцэрт.

Тэлефануйце на нумар **72-29-96** ці на пэйджар **73-00-00 (для абанента 95684)** альбо зьвяртайцеся на **E-mail: pagonia@irex.minsk.by**

## Каб ніколі болей не паўтарылася

**Выйшла з друку кніга ўспамінаў гарадзенцаў-ахвяраў палітычных рэпрэсіяў «Ніколі болей». Пра свае гады лагероў і ссылак узгадваюць Павал Жук, Уладзімір Кісель, Іна Карпюк ды іншыя. Кніга выдадзена ў Вільні і вылучаецца добрым паліграфічным аздабленнем, багаццем фотаздымкаў.**

14 снежня ў Гарадскім доме культуры адбылася прэзентацыя новай кнігі. Наклад выдання абмежаваны, і прадавацца кніга не будзе. Ініцыятары стварэння кнігі - мясцовая філія БСДП (НГ) і Асацыяцыя ахвяраў палітычных рэпрэсіяў - абвесцілі збор сродкаў на ўзвядзенне ў Гродне помніка памяці.

**Павал Мажэйка**

## Даведаліся, чым кормяць

**Вучні гарадзенскай СШ№9 распачалі выпуск сваёй газэткі. На шасці старонках «Супер-9» - напалову беларускамоўная інфармацыя пра апошнія школьныя падзеі.**

Хіт газэты - рэцэпт школьных катлетаў ад загадчыцы сталовай Валянціны Жук: на 100 порцыяў - 3 кг 700 г мяса, 900 г хлеба, 600 г цыбулі, 500 г сухароў і 300 г алею.

Рэдагуюць бюлетэнь Аксана Шуміла і Валерыя Цыганкова, навучэнкі школы.

**Юлія Дарашкевіч**

## Закрылі «Зяльвяначку»

**У Зэльве улады закрылі школьную газэту «Зяльвяначка». Выйшла ўсяго два нумары газэты, але ўжо пасьля першага намесьніца старшыні зэльвенскага райвыканкаму Алена Коўш выклікала супрацоўнікаў газэты да сябе, пагражаючы звальненьнем з працы. Прычынай такога стаўленьня стала тое, што газэта незарэгістраваная.**

Так школьнікі засталіся без газэты. Аднак ненадоўга: газэта ўсё ж будзе выходзіць, толькі ўжо не як школьнае выданьне, а як раённая моладзевая газэта.

**БАРЦ**

## А дзе ж будзе спыняцца цырк?

**Менскім музеем Вялікай Айчыннай вайны абʼяўлены агульнабеларускі конкурс для архітэктараў і скульптараў на лепшы праект помніка-мемарыяла воінам-памежнікам, які плануецца ўсталяваць у Гродне. Конкурс будзе доўжыцца да 20 снежня 2000 года.**

Ужо абрана месца для пабудовы мемарыяла - на вуліцы Савецкіх пагранічнікаў, каля лякарні хуткай дапамогі, дзе звычайна спыняюцца атракцыёны і цырк на гастролі.

**Рэгіна Станкуце**

# Гарадзенская міліцыя працягвае змагацца з журналістамі ПАГОНІ

**9 снежня, напярэдадні гадавіны прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, супрацоўнікі гарадзенскай міліцыі здзейснілі напад на карэспандэнтку ПАГОНІ Алесю Сідлярэвіч. Алеся фатаграфавала для газеты моладзевую акцыю пратэсту, калі на яе наляцелі міліцыянты. Яны палічылі, што фатаграфаванне на вуліцах Гродна перашкаджае ахове правапарадку, таму вырвалі з рук журналісткі фотаапарат, а ёй самой заламалі рукі і кінулі ў машыну. Не звярнулі ўвагі і на журналісцкае пасведчанне.**

**Але для таго, каб не толькі махаць дубінкай, але і ўмець карыстацца фотаапаратам, трэба шмат вучыцца. Таму ў Ленінскім аддзяленні міліцыі Гродна, куды прывезлі нашу карэспандэнтку, міліцыянты не здолелі сапсаваць фотаздымкі. Пасля напісання тлумачальнай запіскі Алесю выпусцілі на волю.**



Дзядок, якога вы бачыце на здымку, злосна і зацята ўбіў кульбай у брук лозунг «Лукашенко, уходи!»

**Разам з карэспандэнткай ПАГОНІ ў Ленінскі райаддзел былі дастаўленыя намеснік старшыні мясцовай філіі Маладой Грамады Святлана Нех, старшыня Свабоднага Студэнцкага прафсаюза Дзяніс Міхальчык, грамадзянін Польшчы Пётр Цішэўскі. Яны былі абвінавачаныя ў правядзенні недазволенага пікету.**

Распачаліся гэтыя падзеі з таго, што а 12-й гадзіне дня на боку лесвіцы, што вядзе да «Гандлёвага дома Нёман», з'явіліся плакаты з патрабаваннем выканання ў Беларусі дэмакратычных правоў і свабодаў.

Ля плакатаў пачалі збірацца пенсіянеры, якія гучна сварыліся і патрабавалі міліцыю. Адна з бабулек кінулася да сцяны і здзерла плакат «С-в-а-б-о-д-у!». Дзядок, якога вы бачыце на здымку, злосна і зацята ўбіў кульбай у брук лозунг «Лукашенко, уходи!»

Міліцыянты арыштавалі пяцёх чалавек, сярод іх і карэспандэнтку ПАГОНІ. Арыштаваны таксама быў і мужчына, які нёс хворай маці слоічак мёду і проста спыніўся, каб паразмаўляць пра рэпрэсіі сталінскага рэжыму.

Грамадзянін Польшчы Пётр Цішэўскі ў райаддзеле быў грунтоўна абшуканы і сфатаграфаваны для міліцэйскага архіву.

Астатніх затрыманых адпусцілі на волю праз тры гадзіны.

# «Мы за правы чалавека. А яны?»

- так называлася невялічкая фотавыстава на адным з трох пікетаў, што праводзілі 10 снежня ў горадзе гарадзенскія дэмакратычныя арганізацыі.

У гадавіну прыняцця Генеральнай Асамблеяй ААН Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека ўлады Гродна, відавочна, вырашылі не ўступаць у супрацьстаянне з мясцовай апазіцыяй і дазволілі правядзенне ўсіх заяўленых пікетаў. Акцыя прайшла абсалютна спакойна, без традыцыйных ужо затрыманняў. Пікетоўцы, сябры Беларускага Народнага Фронту і Грамады, раздавалі гарадзенцам брашуры з тэкстам Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, а таксама надрукаваныя прыклады парушэння рэжымам гэтых правоў у Беларусі і ў Гродне. Аднак, нягледзячы на заяўленыя дзве гадзіны, пікеты скончыліся хвілінаў праз 40 - скончыліся брашуры.

Прадстаўнікам мясцовых філіяў Маладой Грамады, Маладога Фронту і анархістам, што далучыліся да акцыі, выпала для пікету бязлюднае месца ля кінатэатра «Кастрычнік».

Аднак моладзь не разгубілася, падышла бліжэй да праезнай часткі і раздавала ўлёткі кіроўцам проста ў форткі аўтамабіляў.

Характэрная рыса пікетаў - гарадзенцы пачалі абмяркоўваць кандыдатуры будучага прэзідэнта. Праўда, пакуль абмеркаванне ідзе шляхам выключэння нявартых. Калі падводзіць вынікі гэткага своеасаблівага пікетовага рэферэндума, дык першымі ў спісе тых, за каго не будуць галасаваць гарадзенцы, стаяць Станіслаў Шушкевіч і Аляксандр Лукашэнка.

На адным з пікетаў, нарадзіліся нават чатыры радкі:

*Народ чакае*
*Баш на Баш*
*Лука чужы,*
*А Домаш наш.*

**Павал Мажэйка**



На пікеце, які адбыўся ля Дома сувязі жанчына чытае пра парушэнні ўладай правоў чалавека ў Гродне

# Гавел гарантуе падтрымку

**Прадстаўнікоў беларускай дэмакратычнай апазіцыі, якія знаходзяцца з візітам у Чэхіі, прыняў 13 снежня ў Празе прэзідэнт Чэшскай Рэспублікі Вацлаў Гавел. Станіслаў Шушкевіч, Вінцук Вячорка, Анатоль Лябедзька, Алесь Бяляцкі і Алесь Міхалевіч абмеркавалі з Вацлавам Гавелам сітуацыю ў Беларусі.**

Чэшскі прэзідэнт задаваў пытанні наконт апошніх фактаў ціску на дэмакратычныя сілы Беларусі, цікавіўся - у якой ступені палітыка Расеі адносна Беларусі змянілася з прыходам да ўлады Пуціна, бо, як сказаў Вацлаў Гавел, «мы мелі адпаведную інфармацыю пра ранейшую палітыку расейскага ўрада і зараз прыходзяць усё новыя трывожныя сігналы». Ацэньваючы перспектывы беларускай дэмакратычнай апазіцыі, чэшскі прэзідэнт узгадаў досвед Сербіі пры пераходзе да дэмакратыі.

«Я асабіста гатовы выступіць з прамовай перад сусветнымі палітыкамі і заклікаць да падтрымкі дэмакратычных ініцыятываў апазіцыі, - сказаў спадар Гавел. - Я запэўніваю яшчэ раз вас у нашай падтрымцы, спадзяюся, што ў вас усё добра завершыцца: дыктатураў на тэрыторыі Еўропы становіцца ўсё меней».

**Наталля Маковік**

# БНФ «Адраджэньне» вызначыўся з кандыдатам у прэзыдэнты

**9 сьнежня адбыўся чарговы Сойм БНФ "Адраджэньне" й Партыі БНФ. З дакладамі выступілі старшыня БНФ Вінцук Вячорка, намесьнікі старшыні Юры Хадыка, Вячаслаў Сіўчык, Віктар Івашкевіч, старшыні камісіяў Галіна Самадзянава і Алесь Астроўскі.**

Асноўнай тэмай Сойму стала палітычнае становішча напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў. «Сёньня мы напярэдадні палітычнай кампаніі, якая можа быць рэальным шанцам зьмяніць сытуацыю ў краіне. Мы праверылі нашыя магчымасьці праз досвед агульнанацыянальных палітычных кампаніяў, масавых акцыяў і працы ў кааліцыі. І ў 2001 годзе мы гатовыя рэальна супрацьстаяць антынароднаму, прарасейскаму рэжыму, перамагаць на выбарах і бараніць перамогу», - адзначыў спадар Вячорка.

Глябальным зьменам, на думку старшыні партыі, спрыяе агульнапалітычная сытуацыя й сацыяльнае напружаньне. «Беларускае грамадзтва спадзяецца на гэтыя выбары, растуць чаканьні. Штучна мабілізаваць грамадзтва немагчыма. Таму надзею на зьмены неабходна зьвязаць з асобай кандыдата ад аб'яднаных дэмакратычных сілаў, які спраўдзіць чаканьні розных пластоў беларускага грамадзтва».

Вінцук Вячорка разглядзеў варыянты разьвіцця прэзыдэнцкай кампаніі. Была абвешчаная гатоўнасьць Фронту змагацца за ўладу пры самым нечаканым разьвіцьці падзеяў, ініцыяваным рэжымам або непасрэдна Масквой. Асаблівую ўвагу лідар партыі надаў працы кааліцыі дэмакратычных сілаў. Ён падкрэсьліў, што перамога на прэзыдэнцкіх выбарах і магутная палітычная падтрымка дэмакратычных зьменаў у Беларусі з боку Захаду магчымая толькі пры ўмове адзінага падыходу да прэзыдэнцкай кампаніі й вылучэньня адзінага кандыдата.

Былі абмеркаваныя кандыдатуры беспартыйных прэтэндэнтаў на ролю адзінага кандыдата, якія мог бы падтрымаць БНФ у складзе КРДС. Сярод іх былы прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Уладзімір Ганчарык, сябра прэзыдыума Вярхоўнага Савету Беларусі 13-га скліканьня Сямён Домаш.

Пасля абмеркаваньня было праведзена рэйтынгавае галасаваньне. Не называючы прозьвішчаў, намесьнік старшыні БНФ Віктар Івашкевіч паведаміў, што 80 працэнтаў галасоў было аддадзена за аднаго з палітыкаў, уключаных у сьпіс. Мяркуючы па таму, як напярэдадні праходзіла абмеркаваньне, гэтым шчасьлівым стаў Сямён Домаш.

# Лукашэнка прадае нашу краіну і народ

**Сойм Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» распаўсюдзіў заяву, дзе сьведчыць, што Аляксандр Лукашэнка падпісаньнем згоды аб уводзінах адзінай грашовай адзінкі Беларусі й Расеі, зрабіў цалкам рэальным зьнішчэньне незалежнасьці Беларусі.**

«За гэта Лукашэнка спадзяецца атрымаць з Масквы крэдыты, якія пройдуць на ягоную прэзыдэнцкую выбарчую кампанію, а таксама здабыць неабходную палітычную падтрымку. Такім чынам, за права называцца расейскім губэрнатарам Лукашэнка прадае нашу краіну і народ», - гаворыцца ў заяве.

БНФ «Адраджэньне» заклікае дэмакратычныя сілы краіны зрабіць усё, каб Лукашэнка быў адхілены ад улады ў наступным годзе.

**Іван Паўлёнак**

ДЫСКУСІЯ

# Цяпер трэба проста выбрацца з гэтага балота

На выбары павінен ісці чалавек не вельмі вядомы, без кампрамата. Галоўнае, трэба яго хутчэй знайсці. Каштуніцу за дзесяць месяцаў раскруцілі... Трэба ўлічваць кожную дробязь, пачынаючы ад палітычных поглядаў, заяўляючы прычоскай, усмешкай і голасам.

Апазіцыі і будучаму кандыдату неабходна ўсвядоміць, што калі яны пераможуць, то ў першую чаргу трэба адраджаць краіну, перабраць парламент, пагадзіцца з тым, каб не ісці на другі тэрмін. Адным словам, сённяшняя апазіцыя павінна зрабіць гераічны ўчынак - стварыць спрыяльныя ўмовы для магутнага 5-8-партыйнага парламента, у які яны наўрад ці ўвойдуць.

У першы тэрмін новы прэзідэнт можа сабе дазволіць рабіць непрэзідэнцкія справы, калі ён будзе кіраваць здаровым сэнсам, а не тое, што - падабаецца-не падабаецца... Гэта толькі ўмацуе эканоміку і адновіць нацыянальную годнасць народа.

Сёння я бачу будучым прэзідэнтам спадара Домаша, хаця не супраць іншай кандыдатуры (калі яна будзе лепш за гэтую). Такія асобы, як Пазьняк, Шарэцкі, Чыгір, ужо зрабілі, ці, магчыма, зробяць шмат добрага для краіны, але толькі не зараз. Цяпер трэба проста выбрацца з гэтага балота. А з добрымі парламентам і законамі нават ідыёт здолее кіраваць краінай (як у ЗША).

**З павагай,**
**Раман М.**

# Задушым вірус часнаком!

**Грып у наш горад яшчэ не прыйшоў - так лічаць у Гарадзенскім гарадскім Цэнтры гігіены і эпідэміялогіі. Успышку чакаюць не раней як напрыканцы студзеня - у пачатку лютага. Але паклапаціцца пра сваё здароўе ўрачы раяць ужо зараз.**

У кожнай паліклініцы горада праводзіцца бясплатная вакцынацыя супраць грыпу. Праўда, гэта не ёсць панацэяй ад вірусу - прышчэпленыя таксама могуць захварэць, толькі ў лёгкай форме. Разлічваць на вакцыну могуць далёка не ўсе - на ўвесь горад Гродна ў наяўнасці - толькі 10 тысяч прышчэпак, прывезеных з Уфы. Таму зрабіць вакцынацыю могуць толькі прадстаўнікі «групы рызыкі» - медычныя работнікі, працаўнікі гандлю, сталыя людзі і дзеці, якія хварэюць часта.

За грошы вакцына не прадаецца, таму ўсе простыя грамадзяне мусяць засцерагацца ад чыхаў і тэмпературы па-іншаму. Напрыклад, часнаком - яго можна жаваць, глытаць і нават насіць на шыі. Каб хвароба не папсавала калядныя святы, варта назапасіцца вітамінамі, а таксама папіць антыгрыпавыя комплексы. У гарадскіх аптэках пакуль яшчэ ёсць антыгрыпакапс (10 капсулаў - 357 рублёў), рэмантадзін (20 таблетак - 1300 рублёў), аксалінавая мазь (10 грамаў - 878 рублёў), антыфлу (6 дозаў - 4100 рублёў). Толькі ў камерцыйных аптэках можна набыць антыгрыпін (10 таблетак - 2400 рублёў), элеўтэракок (60 таблетак - 2500 рублёў).

**Юлія Дарашкевіч**




**На здымку: старажытнейшая аптэка Гродна (Савецкая,4) прапануе самыя сучасныя сродкі барацьбы з вірусам**

# Новы год ля варот: пра грошы і не толькі

**Нягледзячы на тое, што на двары стаіць амаль што вераснёвая цеплыня і снегам з марозам нават не пахне, да Каляду і Новага года застаюцца лічаныя дні. Раім тым, хто пра гэта забыўся, хутчэй заняцца падрыхтоўкай да святаў, тым больш, што працэс гэты вельмі прыемны і выклікае не менш цудоўных хвалюючых пачуццяў, чым ноч на 1 студзеня.**

## Кожнаму гарадзенцу - па ялінцы

Елак сёлета ў продажы хопіць на любы густ. Ужо з 21 снежня пачнуць працаваць 11 елачных базараў у Гродне і два ў прыгарадзе. Гандаль разгорнецца на традыцыйных месцах - ля крамы «Вясёлка» па вуліцы Урублеўскага, ля мінірынкаў на БЛК і вуліцы Соламавай, ля крамы «Фіялка», каля стадыёна «Нёман», універсама «Брэст», на вуліцы Шчорса ля «Ваенсервіса», каля аўтавакзала, ля крамы «Світанак» на вуліцы Ліможа, ля крамы «Каскад» па вуліцы Паповіча, ля крамы «Біруза». За адну елачку вышынёй да трох метраў трэба будзе заплаціць 1400 рублёў. Самавольная вырубка ў лесе абыйдзецца даражэй - штрафам у некалькі «мінімалак».

Штучныя «зялёныя прыгажуні» ужо даўно красуюцца ў гарадзенскіх крамах. Калі вы - паслядоўнік Партыі «зялёных» і катэгарычна супраць звычкі легкадумных людзей секчы елкі, ставіць іх у хаце, а потым выкідваць з балкона - можаце набыць сабе настольную і падлогавую шматразовую елачку. За пухнатую ялінку да 40-60 сантыметраў заплаціце ад 4 да 16 тысяч рублёў. З вышынёй і пухнатасцю ўзрастае і кошт. За «зялёны цуд» пад 1,5-2 метры давядзецца выкласці каля сотні тысяч рублёў.

Аднак любіць прыроду сёння можна значна танней. Гарадзенскі зеленгас падрыхтаваў прыемны сюрпрыз аматарам жывой прыроды. У аўторак у крамы кветак, што па вуліцах Ажэшкі, Савецкай (крама «Рамонак»), вуліцы Сацыялістычнай, БЛК (крама «Фіялка») ужо завезеныя елачкі ў вазонах. Дрэўцы вышынёй 50-70 сантыметраў з каранямі трэба будзе толькі паліваць увесь час. Іх можна ўпрыгожваць як заўгодна, пасля свята не трэба выкідваць, а высадзіць дзе-небудзь у лесе ці на дачы. Кошт аднаго дрэўца - 4600 рублёў.

Што да бязглуздых шкляных цацак, дык на іх і разарыцца нядоўга. Наборы з чатырох шароў ляжаць у крамах па 2500 рублёў, аднак чатырох шарыкаў на ўсю елку будзе малавата. Давядзецца купіць яшчэ колькі бліскучых зайчыкаў, званочкаў, іншай драбязы па 350-600 рублёў. Калі каму захочацца пусціць пыл у вочы неабгрунтаваным марнатраўствам - лёгка можна патраціць пяць-шэсць даляраў за адзін шкляны шар замежнай вытворчасці. Такі ж дэмакратызм назіраем і ў цэнах на Дзеду Марозаў ды Снягурак пад елачку. Пластмасавыя немудрагелістыя насільшчыкі мяшкоў з падарункамі каштуюць усяго па 400 рублёў. За прыбраных у кітайскі аксаміт вузкавокіх і пузатых Дзеда і Унучку трэба выкласці 3500 рублёў. Мішура ў крамах сёння па 1-2 тысячы рублёў. Трэба думаць, бліжэй да свята з'явіцца танная на базарах.

## Як сустрэць новае тысячагоддзе ва ўсёй красе?

Канешне, у навагоднюю ноч-2001 хочацца выглядаць ашаламляльна. Лепш за ўсё ўжо цяпер набыць ва універмагу тканіну і пашыць у добрай краўчыхі вечаровы строй. Убранне абыйдзецца Вам усяго ў 15-20 тысяч - і атрымаеце менавіта задуманы Вамі фасон. Калі надта хочацца пафарсіць у галоўную ноч веку ў сукні ад Armani ці Dior`а, - ездзьце ў сталіцу. У нашых, так бы мовіць, салонах адзення выкладзеце 50 даляраў за падробку. Трэба думаць, што гарнітур ў мужчынаў даўно пыліцца ў шафе ў чаканні свайго зорнага часу. Таму традыцыя давядзецца толькі на кашулю (4-6 тысячы рублёў), шкарпэткі, гальштук. Ну і на падарункі трэба будзе адкласці нейкую суму. У фінансавым крызісе можна сціпла прызнацца: маўляў, «Лепшы твой дарунак - гэта я». І працягнуць караме́льку. Але ніхто не забараняе прэзентаваць зімовы адпачынак у Гаграх ці калекцыйную шубку.

## Што б такое з'есці, каб меней заплаціць?

Навагодні стол у меру сілаў кожнага з нас традыцыйна ломіцца ад пачастункаў. Сцягваюцца ўсе запасы на зіму. Але колькі б смакалыкаў ні было - усе яны пачыста змятаюцца ужо да 2 студзеня. Купіць сёння можна ўсё: ад заморскіх далікатэсаў да кавалка звычайнага мяса. Дык вось, ростбіф з парнога мяса на рынку будзе Вам каштаваць 2,5-4 тысячы рублёў, танная сырая гарбуша - 1,5 тысячы, сервелаты-салямі - 5 тысяч за «палку», кансервы з кукурузы, гарошку, маянэз, яйкі, сыр - яшчэ пад 3 тысячы, свежая садавіна і гародніна - яшчэ 2 тысячы рублёў. На салодкае дзецям пойдзе кілаграм цукерак за 4-6 тысяч і торт. Ну, і на шампанскае ды паўлітра гарэлкі - 4 тысячы рублёў. Дарэчы, учорасёння ў крамах бойка размяталіся апошнія бутэлькі шампанскага. Работнікі прылаўкаў папярэджваюць, што да канца тыдня запасы шампанскага па старым коште 2560 рублёў скончацца. Новая партыя будзе каштаваць разы ў два болей. Будуць і танныя газаваныя вінныя напоі са Слоніма, Асіповічаў. У выніку навагодняе застолле без празмернасцяў абыйдзецца сям'і з 3-х чалавек у 25-28 тысяч рублёў.

Паход у пацешлівае месца будзе каштаваць значна даражэй. Ноч у «Калізеі», паводле папярэдніх дадзеных, «пацягне» на 100 даляраў, ва «Флінце» - 80 даляраў, у «Клетцы» - 20 даляраў з асобы. Гэта з пачастункам, спіртным і забаўляльнай праграмай.

Так што, кожны вольны выбіраць свой Новы год: у асяроддзі сяброў, сям'і, альбо пад елачкай на Савецкай плошчы.

**Алена Сіневіч**

# На пажар, зважай!

**У суботу, 16 снежня, сірэна штаба Грамадзянскай абароны разрэжа паветра ў раёне «Азота». Гарадзенская служба Міністэрства надзвычайных сітуацыяў разам з пажарнай службай «Азота» будуць вучыцца з годнасцю знаходзіць выйсце з магчымых экстрэмальных сітуацыяў.**

Гэтым разам «гасіць» будуць сховішча ваджкага аміяку. Вучэнні будуць адбывацца пад пільным наглядам трох прадстаўнікоў Міністэрства надзвычайных сітуацыяў Беларусі.

**Павал Мажэйка**

# Студэнтаў пазбавілі калядных падарункаў

**Гарадзенскім студэнтам знізілі стыпендыі на некалькі тысяч рублёў. Максімальная стыпендыя студэнтаў Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта за мінулы месяц склала 11520 рублёў (прыкладна 10 у.а.), мінімальная - 7200 рублёў (прыкладна 6 у.а.). Гэта значна ніжэй, чым стыпендыя за верасень бягучага года.**

Як паведамілі ў бухгалтэрыі, такая нізкая стыпендыя звязана з адсутнасцю індэксацыі ў гэтым месяцы і адменай прэміяў, сацыяльнай матэрыяльнай дапамогі.

Вось і лічыце зараз. Бохан хлеба каштуе прыкладна 235 рублёў, адзін літр малака - 265 рублёў. Калі вы - выдатнік і атрымоўваеце максімальную стыпендыю, то грошай на малако і хлеб вам не хопіць на 22 дні. Можаце, праўда, харчавацца праз дзень, тады грошай вам хопіць на 30 дзён і яшчэ застанецца 3500 рублёў на калядныя падарункі.

Са святамі, студэнцтва!

**Юлія Коцкая**

# Японскі прафэсар у гарадзенскім унівэрсытэце

**У Гарадзенскім дзяржаўным аграрным унівэрсытэце пабываў зь візытам прафэсар зь Японіі Этсуо Йошыно.**

Прафэсар займаецца эканомікай і сацыяльнымі праблемамі Ўсходняй Эўропы, а ў Гародні ён шукаў патэнцыйнага партнэра для навуковай стажыроўкі ў Японіі. Прафэсар пабываў у адной зь вёсак Гарадзенскай вобласьці, каб пазнаёміцца з побытам і жыцьцём звычайных людзей. Для гэтай мэты ён выбраў сям'ю пэнсіянэраў, у якіх пацікавіўся іх лёсам - размова цягнулася некалькі гадзін, японец хацеў у падрабязнасьцях уявіць жыцьцё шэраговага беларуса.

У памяць пра сябе японскі прафэсар пакінуў сувэнірныя пляшкі японскай гарэлкі сакэ.

# Гарадзенскія бізнэсоўцы ўзброіліся псыхалягічнай зброяй

**Гарадзенскі гарадзкі бізнэс-цэнтар правёў чарговы сэмінар у рамках праграмы падтрымкі прадпрымальніцтва. Сэмінар праводзіўся супольна з мэдычным рэабілітацыйным цэнтрам «Шанц» і быў прысьвечаны тэме «Навука перамагаць, альбо Выкарыстаньне псыхатэхнікі ў бізнэсе і маркетынгу».**

Праводзіў сэмінар спэцыяліст-псыхатэрапэўт Сяргей Шыманскі. Падчас сэмінару бізнэсоўцы даведаліся, як паводзіць сябе з кліентам, каб выклікаць у яго давер, а таксама наводзіць гіпнатычны транс альбо выкарыстоўваць маніпуляцыі сьвядомасьцю.

Прадпрымальнікі авалодалі асобнымі прыёмамі псыхатэхнікі. Мяркуючы па колькасьці ўдзельнікаў, сэмінар быў карысным. Такія мерапрыемствы бізнэс-цэнтру прадпрымальнікі наведваюць зь вялікай ахвотай.

Наступны занятак будзе прысьвечаны зьнешнеэканамічнай дзейнасьці прыватных прадпрымальнікаў. Гэтай жа тэме прысьвечана новая «гарачая лінія», якая працуе зараз для бізнэсоўцаў. Са сваімі пытаньнямі яны могуць зьвярнуцца да супрацоўнікаў рэгіянальнай мытні.

**БАРЦ**

# Цяпер можна спаць з адкрытай форткай

**На мінулым тыдні злапалі кватэрнага злодзея, які праз фортку «чысціў» хаты ў цэнтры горада.**

Раней сёлета бамжа падпільнавалі оперупаўнаважаныя Ленінскага РАУС Габіс і Гутоўскі. Злачынцу чакалі ў засадзе і ўзялі, як толькі той з'явіўся з мехам рэчаў пасля свайго чарговага «рэйду» па кватэрах.

# 3 гранатай на таксіста

**У пятніцу вайскоўцам-кантрактнікам быў учынены разбойны напад на таксіста.**

Злачынца сеў у машыну на праспекце Кляцкова. У кіламетры ад пасёлка Фабрычны мужчына стаў трэсці перад носам вадзіцеля нажом і гранатай, патрабуючы ключы ад BMW-524. Таксіст здолеў выхапіць нож і ўцячы. Граната аказалася вучэбнай і не ўзарвалася.

На месца разбою выехаў участковы інспектар Гарадзенскага РАУС Часлаў Галамбеўскі, які і затрымаў салдаціка-злачынцу.

**Юлія Дарашкевіч**

# Апаганена царква адвентыстаў

**На мінулым тыдні невядомыя злачынцы апаганілі новы будынак царквы адвентыстаў сёмага дня, якая месціцца на праспекце Касманаўтаў у Гродне. Яны размалявалі чорнай фарбаю фасад храма.**

На жаль, у нашым горадзе, вядомым сваёй канфесійнай талерантнасцю, пачасціліся выпадкі глуму з рэлігійных пачуццяў.

**Сяргей Самасей**

# Прыгоды закаханага трактарыста

**Трактарыст калгаса «Светлый путь» Іван Нядзвецкі нарадзіўся ў Літве, але яшчэ ў маленстве (з бацькамі, канешне) пераехаў жыць у Воранаўскі раён, вёску Міцканцы. Аднак сувязяў з роднымі пенатамі не страчваў. Бываючы ў Літве, пазнаёміўся з жыхаркай Варэны Інай Бутрымайтэ, будучай жонкай. Вяселле вырашылі гуляць на літоўскім боку.**

На жаль,..літаральна напярэдадні вяселля трактарыст падчас побыту ў Літве згубіў свой беларускі пашпарт. Мясцовыя літоўскія ўлады прынялі да ўвагі заяву аб страце і выдалі Івану часовую паперку, па якой ён здолеў без пашпарта і візы - але легальна! - адправіцца да сябе ў вёску Міцканцы.

У Воранаўскім РАУС на слёзную просьбу калгаснага трактарыста - як мага хутчэй выдаць яму новы пашпарт - разважна адказалі, што страціць такі дакумент - гэта не тое самае, што згубіць пачак запалак. Трэба ўлічыць усе абставіны, і наогул - працэдура зойме некалькі тыдняў.

Івану стала кепска. Вяселле прызначана, усё, што трэба, наварана-насмажана, запрошаныя госці ўжо апранаюць святочныя касцюмы!.. Закаханы трактарыст уявіў сабе выраз твару будучай цешчы - і па знаёмых з дзяцінства сцяжынках з калгаса «Светлый путь» накіраваўся ў буржуазную Літву. Па сумежнай тэрыторыі прайшоў усяго 100 крокаў і патрапіў проста ў рукі літоўскаму памежнаму патрулю.

На першым жа допыце Іван раскалоўся і выклаў усё. У літоўскай памежнай паліцыі служаць не пенсіянеры, а маладыя хлопцы, якія ўвайшлі ў Іванава становішча і па хадайніцтву варэнскіх сваякоў адпусцілі трактарыста на тры дні вясельнай цырымоніі.

Вяселле ў Варэне адгулялі добра, але крымінальная справа з прычыны незаконнага пераходу дзяржмяжы засталася. Наперадзе чакаў суд. Маладая жонка ды іншыя сваякі зноў напісалі хадайніцтва - абавязацельства ўтрымліваць Івана, карміць, паіць яго, а ў патрэбны тэрмін даставіць у суд.

Аднак суддзя Варэнскага суда Жыленіс пастанавіў трымаць Івана Нядзвецкага да суда пад замком! Тры тыдні мядовага месяца Іван правёў у Вільнюскай следчай турме.

Якія сталінскія парадкі ў дэмакратычнай Літве! - здзівіцеся вы. Так? А вось і не. У гэтым ёсць вялікі сэнс, з якім не пашкодзіць азнаёміцца кожнаму з нас. Нарэшце адбыўся літоўскі суд за нелегальны пераход мяжы грамадзянінам Беларусі Іванам Нядзвецкім. Трактарыста аштрафавалі на 12500 літаў (3125 даляраў). Пры сабе ў Івана такіх грошай, канешне, не было. Цяпер - увага! Пагадненне паміж Літвой і Беларуссю наконт узаемнага спагнання штрафаў таксама няма. Таму суддзя вызваліў Івана Нядзвецкага ад выплаты штрафа, бо палічыў, што гэтая сума пагашана адсідкай.

Разумееце? Вы, знаходзячыся ў Літве, выпадкова пераходзіце, да прыкладу, вуліцу на чырвонае святло. За гэта мусіце плаціць штраф. А любы паліцэйскі ведае, што калі вы заўпарціцеся, спагнаць гэты штраф ніякай магчымасці не будзе. Таму ён вас папросту зачыніць у «кутузцы» на суткі, на тыдзень, альбо месяц - у залежнасці ад цяжару і злоснасці парушэння.

У літоўскіх «кутузках», шчыра кажучы, кепскае ацяпленне і, у адрозненне ад шведскіх ці германскіх, раніцою каву не падаюць.

**Лявон Даўгяла**

# Беларускія старадрукі знойдзеныя ў Швецыі

**У Каралеўскай бібліятэцы Упсальскага універсітэта Швецыі знойдзены тры унікальныя беларускія старадрукі XVI-XVII стагоддзяў. Пра гэта паведаміў ПАГОНІ доктар інстытута славістыкі Упсальскага універсітэта Андрэй Катлярчук.**

**Паводле словаў беларуса Андрэя Катлерчука, які нарадзіўся у Тураве, а цяпер працуе ў Швецыі, сярод знойдзеных старадрукаў ёсць рукапіс знакамітага беларускага праваслаўнага дзеяча канца XVI стагоддзя Стэфана Зізанія «Казаньне сьвятога Кірыла», напісаны ў Вільні ў 1590 годзе. У адрозненне ад выдання 1586 года, што выйшла паралельна пабеларуску і па-польску, рукапіс мае толькі старабеларускі варыянт. Апроч гэтага, у рукапісе падаецца прадмова да князя Канстанціна Астрожскага.**

**Другі знойдзены старадрук - гэта поўны каталіцкі «Катэхізіс» друкаваны па-беларуску кірыліцай у 1585 годзе езуітамі. Больш нідзе ў свеце гэтае кнігі няма. У архівах расейскага Пецярбурга захаваліся толькі дзесяць старонак тэксту. «Катэхізіс» цікавы найперш спробай выпрацаваць уласна беларускую тэалагічную тэрміналогію. Напрыклад: «Каторые дабрадзецелі грахом глаўным суць процівные, тых седм: Пакарэньне, Гойнасьць, Чыстота, Ласкавасьць, Зычлівасьць, Марнасьць, Ахвота ку службе бжэй».**

**І трэці старадрук, які пашчасціла знайсці ў Каралеўскай бібліятэцы Упсальскага універсітэта, - невядомы беларускі «Ірмалягeн» XVII стагоддзя.**

**На сённяшні дзень, як паведаміў доктар Андрэй Катлярчук, ідзе дэталёвае вывучэнне знойдзеных дакументаў беларускімі і шведскімі навукоўцамі.**

**Павал Мажэйка**

# Жывая археалогія

**Знаны беларускі археолаг Мікола Крывальцэвіч і заснавальнік выдавецтва «Athenaeum» Алег Дзярновіч 6 снежня прэзентавалі гарадзенцам новую кнігу «Археалагічныя адкрыцці свету». Імпрэза адбывалася ў корпусе гістарычнага факультэта ГрДзУ, што па завулку Даватара,3.**

У кніжку ўключаныя найбольш яркія археалагічныя знаходкі 1970-1990-х гадоў. Пра большасць з іх нашыя суайчыннікі чулі, бадай, толькі з паведамленняў інфармацыйных агенцтваў.

Кніга распавядае пра лёдавага чалавека («айсмэна»), які загінуў у Альпах каля 3300 гадоў да нашай эры і быў выпадкова знойдзены ў 1991 годзе, пра «балотных людзей» з Паўночнай Еўропы, пра унікальныя пахаванні македонскіх цароў і яшчэ шмат чаго цікавага. У кантэкст апошніх дасягненняў сусветнай археалагічнай навукі выдатна ўпісваюцца адкрыцці беларускай археалогіі - вядомы комплекс старажытных капальняў пад Ваўкавыскам ды таямнічыя паселішчы 3-2 тысячагоддзяў да нашай эры ў балотах Прыдзвіння.

- Сучасная грамадства шмат чаго згубіла перад старажытным, - лічыць Мікола Крывальцэвіч. - Мы ўдасканалілі тэхнічныя рэчы, але пазбавіліся той гармоніі з людскім асяродкам і прыродай, у якой жылі нашыя продкі.

Асобны нарыс кнігі прысвечаны эксперыментальнай археалогіі. Гэта адмысловы навуковы кірунак, які займаецца мадэляваннем, «ажыўленнем» старажытнасці: аднаўленнем тэхналогій вырабу прыладаў працы, вытворчасці разнастайных металаў, рэканструкцыяй пахаваўчага абраду і гэтак далей. Дацкія эксперыментатары, напрыклад, зазначылі, што крамянёвымі сякерамі можна высячы цэлы дубовы лес. Гарадзенцам быў прапанаваны відэафільм і слайды з прыкладам такіх эксперыментаў у сусветнай беларускай практыцы.

- На Захадзе эксперыментальная археалогія набыла даволі шырокае распаўсюджанне. Там ствараюцца цэлыя вёскі, дзе ва ўмовах старажытнага побыту жывуць удзельнікі пэўнага эксперыменту ці тыя, хто шукае сабе прыгоды за грошы. Беларускія ж археолагі робяць толькі першыя крокі ў гэтай галіне. Бо для яе развіцця неабходна салідная навуковая і фінансавая база, - гаворыць Мікола Крывальцэвіч.

Увогуле, археалогія ў Беларусі - даволі экзатычная навука. Як гавораць пра сябе самі археолагі: «Нас у краіне зараз - як касманаўтаў. Нават меней».

Кніга «Археалагічныя адкрыцці свету» выйшла ў верасні гэтага года. Яна распачынае серыю кніг новай навукова-папулярнай калекцыі выдавецтва «Athenaeum» - «Панарама». Надрукавана яна невялікім накладам - 500 асобнікаў, і ў кнігарнях не прадаецца. Тых, каго зацікавіла кніга, падахвоцьце на выставу аўдыё-відэа-кніга прадукцыі на Карла Маркса,11.

**Алеся Сідлярэвіч**



**На здымках: выдатна захаваная балотам галава Толундзкага чалавека, якой амаль 2000 гадоў; Sweet Track-дарога ў Англіі, пабудаваная 5000 гадоў таму**






Дарагія чытачы! ПАГОНЯ працягвае конкурс па вызначэнні Чалавека стагоддзя Гарадзеншчыны. Удзел у ім ужо прынялі самыя разнастайныя аўтары: прафесар кафедры беларускай культуры Гарадзенскага дзяржуніверсітэта Аляксей Пяткевіч, пісьменнік і журналіст Сяргей Астраўцоў, студэнты медычнага універсітэта, рэпарцёры беларускай службы «Радыё «Свабода».

Былі названыя як ураджэнцы Гарадзеншчыны, так і тыя, каго лёс непарыўна звязаў з нашым рэгіёнам. Называліся імёны акадэміка Яўхіма Карскага, пісьменніка Васіля Быкава, стваральніка мовы эсперанта Людвіка Заменгофа, спарцменаў Якуба Чахоўскага і Яніны Карольчык ды іншых знакамітых асобаў.

Як выявілася, наша зямля надзвычай багатая на таленты і герояў. Выбраць Чалавека стагоддзя няпроста. Чакаем вашых прапановаў!

# Чалавек легендарнай біяграфіі - Аляксей Карпюк

**Яго імя як кандыдата на намінацыю «Чалавек Гарадзеншчыны XX стагоддзя» ужо ўзгадвалася ў ПАГОНІ (гл. нумар ад 30.11.2000 года). Сам Васіль Быкаў выказаў такую думку: «Чалавек надзвычайны, сапраўдны гарадзенец». З гэтым вызначэннем нельга не пагадзіцца.**

Аляксей Нічыпаравіч Карпюк прызнаваўся адным з найбольш вядомых асобаў вобласці ў 1990 годзе, за два гады да сваёй смерці. Яго прозвішча было на слыху не аднаго пакалення нашых землякоў. Чалавек легендарнай біяграфіі, ён пакінуў памяць пра сябе не ў адным сэрцы.

Год нараджэння - 1920-ы. Усё жыццё прайшло на Гарадзеншчыне. Амаль дваццаць гадоў хлопец жыў у Заходняй Беларусі, якая ўваходзіла ў склад Польшчы паводле мірнай дамовы паміж Расеяй і Польшчай 1921 года. Не сядзеў склаўшы рукі. Быў у падпольным камсамоле. У час вайны з гітлераўцамі дапамагаў партызанам. Увясною 1943 года разам з братам Уладзімірам быў кінуты ў лагер смерці Штутгаф. Уцёк. Дабраўся да роднай зямлі. Узначальваў партызанскі атрад. Пасля ваяваў у складзе Чырвонай Арміі. Узнагароджаны баявымі ордэнамі і медалямі, узнагародай былой ПНР. Паранены, доўга ляжаў у шпіталі. Сябры па службе ў сваіх лістах у шпіталь называлі яго героем, ганарыліся таварышам.

Аляксей Карпюк вярнуўся у Гродна з некалькімі асколкамі ў лёгкіх. Паступіў у педагагічны інстытут на аддзяленне замежных моваў. Працаваў у сярэдняй школе, загадчыкам райаддзела адукацыі, у абласной газеце, кіраўніком установы культуры, старшынём мясцовага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі...

Аўтар больш як 20-ці празаічных кніг. Чалавек высокай прынцыповасці, моцнага характару, не саступаў любому прайдзісвету з партбілетам у кішэні ці чыноўніку, адарванаму ад народа. Пра сваю пазіцыю ён гаварыў адкрыта, у друку. Гэта пачалося з сярэдзіны 50-х, калі малады настаўнік выступіў з лістом на адрас ЦК КПСС, дзе выказаў нязгоду з лозунгам «Першы хлеб дзяржаве!». А чаму не селяніну, які гэты хлеб вырасціў?

Апошнія публікацыі пабачылі свет у 1990-1991 гадах у «Гродзенскай праўдзе». За гэтыя сорак гадоў партыйныя ўлады выключалі яго з партыі, справаджвалі з работы, нацкоўвалі баявых ветэранаў. Нехта начамі біў вокны ў кватэрах Карпюка і Быкава. Пра іх плявузгалі на дзесятках партыйных сходаў. Цягалі па судах. Відаць, становішча было вельмі сур'ёзным, калі Аляксей Нічыпаравіч быў вымушаны перабраць лісты і частку перапіскі папросту затапіць у Нёмане. У прыватнасці, лісты знакамітага Аляксандра Салжаніцына.

Нават сёння, праз восем гадоў пасля смерці пісьменніка ў ліпені 1992 года, пра яго памятаюць. Зробленага ім для грамадства так шмат, што ў кароткай публікацыі нельга ўсё пераказаць. Але сотні чалавек пацвердзяць, што Аляксей Карпюк сапраўды можа прэтэндаваць на званне выбітнай асобы Гарадзеншчыны стагоддзя.

**Антон Лабовіч**

Аляксей Карпюк

**Шаноўныя чытачы! Чакаем вашых лістоў з вызначэннем кандыдата на пачэснае званне «Чалавек стагоддзя Гарадзеншчыны». Нагадваем, што з рэдакцыяй можна звязацца праз паштовы і электронны адрасы.**

**Увага!** Свае прапановы вы можаце даслаць на пэйджар абаненту 95684 (тэлефон 73-00-00) з паметкай «Чалавек стагоддзя»

# У напружаным чаканні рок-фэсту

**22-23 снежня ў канцэртнай зале «Гродна» мае адбыцца традыцыйны рок-фэст «Тры шрубы» з удзелам 13-ці рок-гуртоў з усёй Беларусі. Перадкалядное шоу павінна будзе зацікавіць фэнаў айчыннага року новымі музычнымі праектамі. З гэтай нагоды на пытанні ПАГОНІ адказвае адзін з арганізатараў фэсту - музыкант гарадзенскага гурта Jangle X-mas Сяргей Фінскі.**

***- Сяргей, падобныя грандыёзныя мерапрыемствы арганізоўваць неверагодна цяжка. Як ідзе падрыхтоўка да фэсту?***

- Падрыхтоўка ідзе ўжо поўнай парай. Запрошаны трынаццаць гуртоў з усёй Беларусі. Сярод іх такія вядомыя, як «Gods Tower» ці «Старый млын». Хацелася б, канешне, запрасіць калег з Польшчы, якія вельмі жадаюць пайграць на Беларусі, але, відаць, не атрымаецца, бо ўзнікнуць дадатковыя складанасці. Мне ўжо неаднаразова, як адміністратару філармоніі, даводзілася праводзіць рок-канцэрты ў Гродне, таму я ведаю колькі гэта каштуе нерваў...

***- Хто будзе займацца тэхнічным забеспячэннем?***

- Мы, гурт Jangle X-mas. Таксама, акрамя чыстага грання, давядзецца папрацаваць над агучваннем залы, гэта займае значны час. Я ўжо зараз хвалююся - як і што атрымаецца.

***- У сэнсе, як заўсёды ў нашай краіне, могуць узнікнуць праблемы з уладамі?***

- Не, я думаю ані з імі, ані з міліцыяй праблемаў не павінна быць. Ужо ёсць папярэдняя дамова. Галоўнае, каб не было шкла і разбітых пляшак, а піва і безалкагольныя напоі прадаваліся ў буфеце выключна ў пластыку.

***- Якія неспадзяванкі, апроч канцэртаў, чакаюць публіку?***

- Пры падтрымцы суарганізатара - Тату-студыі S.O.D. - пройдзе розыгрыш латарэі. Таму фэны не павінны выкідаць набытыя квіткі. Іх чакае сюрпрызы. Магчыма, хтосьці з гарадзенцаў пакажа пэрформанс. Выступіць гарадзенскі гурт «Сцерва». Так што ласкава запрашаю на рок-фэст 22-23 снежня а 18-й гадзіне!


Сяргей Фінскі

**Гутарыў Адам Налібоцкі**

# Юбілейнае «Бязмежжа» - атхланне для незалежнікаў

**Заўтра, 15 снежня, у Беластоку і Гайнаўцы пачынаецца V літаратурны семінар «Бязмежжа». Ён будзе доўжыцца два дні і мае стаць этапным у галіне супрацоўніцтва паміж польскімі і беларускімі літаратарамі.**

Традыцыйна арганізатарам семінараў «Бязмежжа» з'яўляецца Беларускі саюз у Польшчы, які прыкладае шмат намаганняў у справе прамоцыі сучаснай беларускай культуры на тэрыторыі суседняй дзяржавы. У межах семінару адбудуцца прэзентацыі шэрагу выдавецкіх праектаў, анансаваных раней у ПАГОНІ, - часопіса «ПРАВІНЦЫЯ», анталогіі твораў сучасных гарадзенскіх паэтаў «Лябірынты прывіднага замку», кнігі прозы Сяргея Астраўца «Цэнзарскія нажніцы», а таксама кнігі Уладзіміра Арлова «Рэквіем для бензапілы» (у перакладзе на польскую мову).

Зразумела, семінар не абыйдзецца без дыскусіяў пра далейшае развіццё беларуска-польскага супрацоўніцтва ў галіне культуры і выдавецкай дзейнасці. Гарадзеншчыну на «Бязмежжы» будуць прадстаўляць Сяргей Астравец, Анатоль Брусевіч, Юрый Гумянюк, Васіль Дзівашэвіч, Юрась Пацюпа і журналістка нашай газеты Алена Сіневіч. Беларусы Беласточчыны вельмі чакаюць прыезду небезвядомых Славаміра Адамовіча і Віктара Шалкевіча.

**Ігар Гандлеўскі**

# Публіцыстыка лінгвіста

**Мы звыкліся з думкаю, што стыль - гэта чалавек. У сапраўднасці ж стыль, жанр і ўсякае іншае моўнае афармленне - толькі маскі, якія мы ўспрымаем замест чалавека. Жыццё асобы куды багацейшае. І рана ці позна асоба заяўляе пра сябе. Так з'яўляюцца проза паэтаў, вершы празаікаў. Гэткаю «зменаю маскі» і ёсць кніга Івана Якаўлевіча Лепешава «Дазнанні». За кароткі (паўгадовы) тэрмін з'явіўся ўжо другое выданне кніжкі. Таму натуральна ўзнікае пытанне: пра што яна?**

«Дазнанні» - кніга глыбока рытарычная, палемічная. Я нават сказаў бы - «антырытарычная». І аргументацыя адпаведная. Купала. Дзяржынскі. Быкаў. Пушкін. Што гэта? Уласныя імёны? Не туды тое! Гэта імёны агульныя. Больш таго, перад намі знакі часу або, як казалі творцы рыторыкі, - топасы. Яны нават чаргуюцца, нібы тэза і антытэза. Лепешаў на старонках сваёй кнігі мне бачыцца ў абліччы гэтага Дон Кіхота, які адважна змагаецца з мёртвымі ветракамі: агульнымі месцамі, стэрэатыпамі, міфамі, звычкамі натоўпу. Ці пад сілу аднаму чалавеку зваявадь гэтую, як той казаў, пякельную моц?

З такой нагоды я (як і аўтар прадмовы да кнігі, Ігар Жук) не ўтрымаюся ад асабістых успамінаў. Маё першае - сапраўднае - знаёмства з Іванам Якаўлевічам Лепешавым. 1988 год. Клуб «Паходня». Дзяды. Мерапрыемства дазволена праводзіць толькі ў памяшканні. Святкаваннеператвараецца ў зацятую спрэчку з камуністамі. І вось, пад самую кульмінацыю, на арэну выходзіць хударлявы, высокі чалавек сталага веку. На вузкім, тыпова беларускім твары несціраны смутак. Гэта прафесар Лепешаў. Толькі цяпер, пішучы гэтыя радкі, разумею, што лепшае пасты на ролю Дон Кіхота не знайсці. А тады ўсё адбывалася, як у сне. У руках прафесара, нібы ў фокусніка, адна за адною мільгаюць газетныя выразкі. Выразкі розныя: то зжаўцелыя, як пазалетташнія косці, то не надта жоўтыя, як зацяганая бялізна, а то і зусім бялюткія, як белазубая ўсмешка дзіцяці. А выступоўца ўсё параўноўвае і параўноўвае цытаты. І б'е, б'е, б'е непытомных ад злосці, і нават ад страху, камуністаў.

Той самы прыём мы сустрэнем і ў кнізе. Аўтар «Дазнанняў» працуе кантрастамі: і фактам, і смехам. Ролю фактаў адыгрываюць цытаты, часцей за ўсё з першакрыніцаў. Смех - выбіване з аўтарскага каментару. Часамі смех выкрасаецца з сутыкнення цытатаў або - з іх адмысловага выбару, з перамены кантэксту. Прафесійнае валоданне цытатным матэрыялам ідзе ад навыкаў лінгвіста, што напрактыкаваўся ў складанні слоўнікаў і робіць гэта з выдворнаю лёгкасцю. Смех - ад прыроднага таленту гумарыста. А ведама, што «смеху баіцца нават той, хто нічога не баіцца». І гэтак, молатам смеху сумны прафесар (а смех заўсёды носіць сумную маску) крышыць ідалаў ідэалогіі ды прапаганды.

Вось Пушкін. Суседскі класік. Яго імя ў расейскай культуры стала сінонімам геніяльнасці. Аўтар кнігі адводзіць яму асаблівае месца, раздзел «Пушкініяна». Калі чытаць дзеля цікаўнасці, то мы даведваемся шмат новага з біяграфіі паэта. Новага нават у тым, што мы па сто разоў перачытвалі. Сапраўды, хіба ж не дзіка гучыць весь гэтае, дзеля чаго «русские чудо-богатыри» «выезжают погулять», асабліва ў кантэксце сучаснай палітыкі:

*Сорочина в поле спешить,*
*Иль башку с широких плеч*
*У татарина отсечь,*
*Или вытравить из леса*
*Пятигорского черкеса.*

А захоплена-шавіністычныя радкі пра расейскую мову, што «как материал словесности, имеет неоспоримое превосходство перед всеми европейскими», лінгвіст Лепешаў абрывае кароткім выслоўем: «Канешне, кожны цыган сваю кабылу хваліць».

Мне здаецца, што Пушкін, і як жывая постаць, і як паэт, ад гэтых ды іншых непрывабных фактаў біяграфіі не прайграе. А калінікалі нават выйграе. Але затое дашчэнту разбураецца «тмутараканскі балван» пад найменнем «Пушкін». Ідал «Пушкін», урэшце, Лепешава таксама не цікавіць. Важна тое, што ў беларускім кантэксце ўсе гэтыя цырымоніі з юбілеем суседскага класіка носяць адмыслова знакавы характар. Яны закліканыя ўзняць істэрыю расейскае геніяльнасці ў процівагу беларускай культуры і беларускай дзяржаўнасці. Ідэалогія кідае пальчатку: хто супраць Пушкіна! А Лепешаў па-рыцарску падымае пальчатку ды паказвае, як Пушкін выказваў сваё супраць. Супраць Літвы, пад якой Міцкевіч разумеў Беларусь, супраць Міцкевіча, супраць свабоды, супраць нас...

Яшчэ адзін ідал: «Жалезны Фелікс». Цень яго, ў выглядзе каменнага барэльефа і надпісу, што скарочана можна перадаць «тут быў Фэлька», не дае спакойна спаць гарадзенцам. І аўтар кнігі «Дазнанні» - дазнаецца, дзеля чаго ж «рыцар рэвалюцыі» наведаў наш горад. Факт наведвання становіцца падставаю для «экскурсу ў гісторыю». Высвятляецца, што «ў абозе наступаўшага войска» на чале з Тухачэўскім ужо ехаў «часовы орган рэвалюцыйнай улады Польшчы» ў асобе Ю.Мархлеўскага і Ф.Дзяржынскага. Дазнанне гэтага факта дазваляе нам спакойна заснуць, нібы пасля псіхааналітычнага сеансу. Заснуць не толькі таму, што «рыцар рэвалюцыі» ехаў не ў авангардзе, а ў абозе. Але і таму, што здарыўся «цуд над Віслай»: бальшавікі далі цягу аж да Менска. Значыць, яны яшчэ не раз адступяць. І можа, нават усім нам пашчасціць убачыць «заплаканага бальшавіка».

У іншым ракурсе падаюцца Купала ды Быкаў. Гэтым разам молат ударае па савецкім вобразе Купалы. Лепешаў усебакова і грунтоўна даводзіць практычна толькі адну (затое якую!) самаацэнку паэта, пераказаную Панамарэнкам: «Янка Купала говорыць, што тое, што ён пісаў пры Савецкай уладзе, не творчасць, а дрындушкі». У гэтым увесь трагізм «жыцця пасля смерці». Трагізм не толькі Купалы, а ўсяе беларускае савецкае літаратуры.

З літаратуры мы ведаем, што станоўчыя героі заўсёды выходзяць слабей, чым адмоўныя. Відаць, праз тое і эсэ пра Быкава менш уражвае. Здаецца ж, напісана яно, як і астатнія раздзелы кнігі, дапытліва, з досціпам, нават уедліва. Аднак чамусьці бракуе напружання. Чаму? Шукаць разгадкі, пэўна, трэба не ў тэксце, а ў жыццёвым кантэксце. Мы звыкліся з Быкавым як з пісьменнікам шчырым ды бескампрамісным, і ўсякі новы факт да гэтае з'явы мае не якасны, а толькі колькасны характар. Але ў агульнай кампазіцыі кнігі эсэ пра Быкава таксама на месцы.

Ледзь не палова кнігі аддаецца моўным пытанням. Публіцыстыка на гэтую тэматыку дазваляе вызначыць дзве галоўныя рысы мовазнаўцы Лепешава. Першае, мова для яго ні ў якім разе не зводзіцца да рамак акадэмічнае працы, ён абы час думае пра яе сацыяльны статус. А другое: прафесар Лепешаў - прыхільнік асцярожнае, кансерватыўнае палітыкі і моўнага будавання. Я думаю, нават тыя, хто катэгарычна не згодзен з гэткім непахісным кансерватызмам, павінны аддаць належнае шчырасці аўтара. Не так і шмат у нас актыўных, здаровых кансерватараў. Наш тутэйшы кансерватызм часцей за ўсё грунтуецца на звычайнай чалавечай лянoце. У Івана Якаўлевіча Лепешава іншае, ён чынна і нястомна змагаецца за сваю пазіцыю, бо цвёрда перакананы, што менавіта яго кірунак паспрые захаванню беларускае мовы. Адсюль жа вынікае і няўступлівасць у дачыненні да больш ці менш радыкальнага пурызму.

Тут сваіх апанентаў аўтар «Дазнанняў» таксама, як і ў іншых раздзелах кнігі, вельмі часта б'е іхнімі ж выказваннямі. Прыкладам, зводзіць у адно дзве цытаты з С.Балаханава: «Выкараненне з мовы рознага кшталту барбарызмаў ё дужа важнаю справаю», «Секс жа ёсць неадоймаю часткай чалавечага бытавання». І досыць. Як той казаў, разумнаму дастаткова.

**Юры Пацюпа**

# У Гродне гарадзенскі джаз

**5 снежня адбылася вельмі рэдкая для нашага горада падзея - у актавай зале вучылішча мастацтваў прайшоў канцэрт джазавай музыкі, падрыхтаваны гарадзенскім квартэтам, у складзе якога - Андрэй Чэкавы (фартэпіяна), Аляксандр Пасечнік (ударныя), Аляксандр Краўчук (саксафон), Юрый Венедыктаў (бас).**

У канцэрце таксама прынялі ўдзел навучэнцы вучылішча мастацтваў. Вядучы выказаў сваё меркаванне наконт таго, што нарэшце гарадзенцы пачалі разумець каштоўнасць «сапраўднай» музыкі. Сапраўды, падчас канцэрта ў зале амаль што не было вольных месцаў.

У 1984 годзе падчас выступлення ў Гродне вядомага джаз-гурта «Алегра» ў зале Дома афіцэраў сабралося толькі каля трыццаці слухачоў.

Пасля афіцыйнай часткі канцэрта адбыўся так званы «джэйсэшн», дзе кожны са слухачоў мог выйсці на сцэну, заняць месца любога з музыкантаў і прадэманстраваць зале свае асабістыя здольнасці ў джаз-музыцы.

**Рэгіна Станкуце**

# «Так ярка пражыць - лепшай долі няма на Зямлі»


**Вершы Максіма Багдановіча хвалююць, абуджаюць высокія пачуцці... Па-асабліваму гэта адчуваеш у музеі паэта, - у старым драўляным доме па вуліцы 1 Мая, якому больш як сто гадоў.**

Музей Багдановіча - не толькі мемарыяльная кватэра паэта. Тут прадстаўлена ўся гісторыя развіцця беларускай літаратуры канца XIX - пачатку XX стагоддзяў.

У кнізе водзываў - падзячныя запісы, Вітаўт Кіпель, Данчык, студэнты і выкладчыкі з Менска, госці з іншых гарадоў Беларусі. Найчасцей сюды прыходзяць, зразумела, гарадзенцы.

9 снежня - на чарговую гадавіну са дня нараджэння Максіма Багдановіча - у музей завіталі вучні сярэдняй школы N18. Да гэтага дня моладзь падрыхтавала літаратурна-музычную кампазіцыю «Так ярка пражыць - лепшай долі няма на Зямлі». Калі школьнікі чыталі вершы Багдановіча, было такое адчуванне, што творы геніяльнага паэта і сёння зразумелыя і блізкія кожнаму з нас, што яго паэзія заўжды знойдзе водгук у сэрцах і душах.

**Пётр Разумовіч**

**На здымку: вучні гарадзенскай СШ№18 на чарговую гадавіну са дня нараджэння Вялікага Максіма падрыхтавалі літаратурна музычную кампазіцыю**

# Слоўнік паводле Вінцука Вячоркі

**Выдавецтва «Наша Ніва» мае прыемнае паведамленне пра завяршэнне работы над Слоўнікам Беларускай Мовы (класічны правапіс). Да новага году слоўнік будзе цалкам змешчаны ў Інтэрнэце (http://slounik.hypermart.net).**

Слоўнік складзены на падставе распрацовак Вінцука Вячоркі ды пастановаў Пражскай правапіснай нарады. Рэдактар слоўніка - Сяргей Шупа.

Гэтую публікацыю мы разглядаем як пілотную і запрашаем усіх вас да абмеркавання. Пасля разгляду ўсіх прапановаў, у 2001 годзе мы плануем выдаць выверaную версію Слоўніка ў кніжным фармаце.

**Сяргей Дубавец**

## Панядзелак, 18

### НАШЕ КИНО

9.05 Пушкинский дом. Валентина Титова, Олег Видов и Георгий Мартынюк в киноповести Владимира Басова "МЕТЕЛЬ". 1964 г.
10.20 Мультфильм "Ограбление по-..." 1978 г.
10.40 Алексей Эйбоженко в приключенческом фильме Валерия Михайловского "ПО ДАННЫМ УГОЛОВНОГО РОЗЫСКА..." 1979 г.
11.50 "10 и 1 история Ираклия Квирикадзе". История 4-я.
12.00 Лекарство против стресса. Алиса Фрейндлих, Андрей Мягков, Олег Басилашвили, Светлана Немоляева и Лия Ахеджакова в лирической комедии Эльдара Рязанова "СЛУЖЕБНЫЙ РОМАН". 2 серии. 1977 г.
14.30 Полина Кутепова, Александр Лазарев и Георгий Тараторкин в триллере Александра Хвана "УМИРАТЬ ЛЕГКО". 1999 г. Д-13.
16.00 КиНовости.
16.10 Ролан Быков в кинодраме Андрея Тарковского "СТРАСТИ ПО АНДРЕЮ" ("АНДРЕЙ РУБЛЕВ"). 1966 г.
19.30 Лекарство против стресса. Вячеслав Невинный, Светлана Рябова, Татьяна Догилева и Нина Русланова в комедии Евгения Герасимова "НЕ ХОДИТЕ, ДЕВКИ, ЗАМУЖ". 1985 г.
20.35 "10 и 1 история Ираклия Квирикадзе". История 5-я.
20.40 Сериал "Д.Д.Д. ДОСЬЕ ДЕТЕКТИВА ДУБРОВСКОГО". 10-я серия. "КТО ЕСТЬ ХУ?"
21.35 КиНовости.
21.45 Анна Назарьева, Борис Никифоров и Сергей Никоненко в мелодраме Александра Полынникова "ГРЕШНАЯ ЛЮБОВЬ". 1997 г. Д-13.
23.05 Владимир Конкин, Андрей Ростоцкий и Лев Прыгунов в приключенческом фильме Ивана Соловова "ЧЕРНЫЙ ОКЕАН". 1998 г.

### МИР КИНО

9.30 Сегодня в программе.
9.35 КиНовости.
9.45 Знай наших! Андрей Градов и Анастасия Мартино в боевике Анатолия Нимана "ЗИГЗАГ" (США - Россия). Д-17.
11.20 Дафни Эшбрук и Сара Майлс в комедии "ДОБЕЙСЯ УСПЕХА" (США). Д-17. Премьера.
13.00 Джереми Дэвис и Бен Аффлек в комедии Марка Пеллингтона "ПОПУТЧИКИ" (США). Д-17.
14.40 Каспер Ван Дин, Брайан Браун и Дэниэл Болдуин в детективе Боба Мисиоровски "НА ГРАНИЦЕ" (США). Д-17.
16.20 КиНовости.
16.35 Якоб Тор Эйнарссон и Эдда Бьоргвинсдоттир в историко-приключенческом фильме Храфна Гуннлаугссона "ПОЛЕТ ВОРОНА" (Исландия - Швеция). Д-13.
18.20 Джим МакГрат и Джефф Дусетт в комедии "ДВА ПРИДУРКА В ГОЛЛИВУДЕ" (США). Д-13.
19.45 Экранизация. "ОНЕГИН". Фильм Марты Файнс по роману А.С. Пушкина. В главных ролях: Рэйф Файнс и Лив Тайлер (Великобритания). Д-13.
21.30 КиНовости.
21.45 Дафни Эшбрук и Сара Майлс в комедии "ДОБЕЙСЯ УСПЕХА" (США). Д-17. Премьера.
23.25 - 0.55 Тоби Магуайр, Эми Хатауэй и Бенишио Дель Торо в детективе "УГОН ПО-АМЕРИКАНСКИ" (США). Д-13.

### СПОРТ

9.00 "Пресс-центр"
9.15 Аэробика
9.40 "Шахматное обозрение"
10.10 Гандбол. Чемпионат Европы. Женщины. Финал.
11.30 "НХЛ - Плюс"
12.00 "Пресс-центр"
12.15 Аэробика
12.40 Американский футбол. События недели
13.05 Баскетбол. Обзор матчей Евролиги ULEB
13.25 Еврохоккейный тур. Кубок "Балтики" Сборная Швеции - сборная Финляндии. Прямая трансляция из Дворца спорта "Лужники". Во втором перерыве (14.55)- "Пресс-центр
15.45 Гонки на катерах. Чемпионат мира в классе 1
16.10 "Фан-клуб американского футбола"
16.40 "Железный фактор. Фитнесс Олимпия"
17.25 Еврохоккейный тур. Кубок "Балтики" Сборная России - сборная Чехии. Прямая трансляция из Дворца спорта "Лужники". В первом перерыве (18.05) - "Пресс-центр"
19.45 Хроника недели
20.20 "Большой ринг"
22.20 "Спортивный глобус"
23.05 Новости
23.20 "Фан-клуб американского футбола"
23.50 "Железный фактор. Фитнесс Олимпия"

## Аўторак, 19

### НАШЕ КИНО

9.05 Жизнь замечательных людей. Анатолий Солоницын, Иван Лапиков, Николай Гринько, Николай Сергеев, Ирма Рауш, Николай Бурляев и Ролан Быков в кинодраме Андрея Тарковского "СТРАСТИ ПО АНДРЕЮ" ("АНДРЕЙ РУБЛЕВ"). 1966 г.
12.25 КиНовости.
12.35 Нина Русланова в комедии Евгения Герасимова "НЕ ХОДИТЕ, ДЕВКИ, ЗАМУЖ". 1985 г.
13.40 "10 и 1 история Ираклия Квирикадзе". История 5-я.
13.50 Сериал "Д.Д.Д. ДОСЬЕ ДЕТЕКТИВА ДУБРОВСКОГО". 10-я серия. "КТО ЕСТЬ ХУ?"
14.40 Анна Назарьева, Борис Никифоров и Сергей Никоненко в мелодраме Александра Полынникова "ГРЕШНАЯ ЛЮБОВЬ". 1997 г. Д-13.
16.00 КиНовости.
16.10 Екатерина Максимова и Владимир Васильев в музыкальном фильме Александра Белинского и Владимира Васильева "АНЮТА". 1982 г.
17.20 Алла Ларионова, Лариса Лужина и Татьяна Конюхова в киноновелле Вячеслава Афонина "ТИХИЙ АНГЕЛ ПРОЛЕТЕЛ..." 1994 г.
17.40 Татьяна Лаврова, Владимир Заманский, Евгения Симонова, Светлана Крючкова и Виктор Ильичев в мелодраме Леонида Марягина "ВЫЛЕТ ЗАДЕРЖИВАЕТСЯ". 1974 г.
18.55 Лекарство против стресса. Георгий Вицин, Людмила Шагалова, Лидия Смирнова, Екатерина Савинова и Нонна Мордюкова в комедии Константина Воинова "ЖЕНИТЬБА БАЛЬЗАМИНОВА". 1964 г.
20.20 "10 и 1 история Ираклия Квирикадзе". История 6-я.
20.25 Сериал "Д.Д.Д. ДОСЬЕ ДЕТЕКТИВА ДУБРОВСКОГО". 11-я серия. "ПРОЗЕРПИНА, БОГИНЯ ТЬМЫ".
21.20 КиНовости.
21.30 Человек с ружьем. Алексей Кравченко, Владимир Самойлов, Татьяна Мещеркина и Сергей Маховиков в боевике Вячеслава Никифорова "РЕЙНДЖЕР ИЗ АТОМНОЙ ЗОНЫ". Россия - Беларусь. 1999 г. Д-13.
23.00 Черно-белое золото. Вера Марецкая в киноповести Марка Донского "СЕЛЬСКАЯ УЧИТЕЛЬНИЦА". 1947 г.

### МИР КИНО

9.35 КиНовости.
9.45 Якоб Тор Эйнарссон и Эдда Бьоргвинсдоттир в историко-приключенческом фильме Храфна Гуннлаугссона "ПОЛЕТ ВОРОНА" (Исландия - Швеция). Д-13.
11.30 Джим МакГрат и Джефф Дусетт в комедии "ДВА ПРИДУРКА В ГОЛЛИВУДЕ" (США). Д-13.
12.55 Экранизация. "ОНЕГИН". Фильм Марты Файнс по роману А.С. Пушкина. В главных ролях: Рэйф Файнс и Лив Тайлер (Великобритания). Д-13.
14.40 Тоби Магуайр, Эми Хатауэй и Бенишио Дель Торо в детективе "УГОН ПО-АМЕРИКАНСКИ" (США). Д-13.
16.10 Мариан Кочиняк, Ян Пешек и Леонард Петрашак в приключенческом фильме Войцеха Вуйцика "БЕРМУДСКИЙ ТРЕУГОЛЬНИК" (Польша). Д-13.
17.45 КиНовости.
18.00 Рейна Бейнолфсон и Эйгл Олафсон в историко-приключенческом фильме Храфна Гуннлаугссона "ТЕНЬ ВОРОНА" (Исландия - Швеция). Д-13.
19.45 Клифф Гормен и Сьюзан Тиррел в боевике Роберта Винсента О'Нила "АНГЕЛ" (США). Д-17.
21.20 КиНовости.
21.35 Эрик Штольц и Бриджит Фонда в комедийной мелодраме "МИСТЕР РЕВНОСТЬ" (США). Д-17.
23.15 - 0.50 Фрэнсис О'Коннор и Мэтт Дэй в триллере Билла Беннетта "ПОЦЕЛУЙ ИЛИ УБЕЙ" (Австралия). Д-13.

### СПОРТ

9.00 "Пресс-центр"
9.15 Аэробика
9.40 Американский футбол. Чемпионат НФЛ. "Тампа Бэй Букенирз" - "Сент-Луис Рэмс". Передача из США
12.10 "Пресс-центр"
12.25 Аэробика
12.50 Хроника недели
13.20 "Железный фактор. Фитнесс Олимпия"
14.05 Еврохоккейный тур. Кубок "Балтики". Сборная России - сборная Чехии. В перерыве (14.40) - "Пресс-центр"
16.20 Гимнастика. Шоу "Олимпийские звезды". Передача из Франции. В перерыве (18.00) - "Пресс-центр"
19.00 "Звездный вторник"
20.00 "Современная горнолыжная школа"
20.20 "Пресс-центр"
20.35 Американский футбол. Чемпионат НФЛ. "Тампа Бэй Букенирз" - "Сент-Луис Рэмс". Передача из США
23.00 Новости
23.15 Гонки на катерах. "Гибралтарский фестиваль"

## Серада, 20

### НАШЕ КИНО

9.05 Владимир Васильев в музыкальном фильме Александра Белинского и Владимира Васильева "АНЮТА". 1982 г.
10.15 КиНовости.
10.25 Виктор Ильичев в мелодраме Леонида Марягина "ВЫЛЕТ ЗАДЕРЖИВАЕТСЯ". 1974 г.
11.40 Татьяна Конюхова в киноновелле Вачеслава Афонина "ТИХИЙ АНГЕЛ ПРОЛЕТЕЛ..." 1994 г.
12.00 Нонна Мордюкова в комедии Константина Воинова "ЖЕНИТЬБА БАЛЬЗАМИНОВА". 1964 г.
13.25 "10 и 1 история Ираклия Квирикадзе". История 6-я.
13.30 Сериал "Д.Д.Д. ДОСЬЕ ДЕТЕКТИВА ДУБРОВСКОГО". 11-я серия. "ПРОЗЕРПИНА, БОГИНЯ ТЬМЫ".
14.25 Сергей Маховиков в боевике Вячеслава Никифорова "РЕЙНДЖЕР ИЗ АТОМНОЙ ЗОНЫ". Россия - Беларусь. 1999 г. Д-13.
15.50 КиНовости.
16.00 Ирина Алферова и Владимир Меньшов в мелодраме Валентина Морозова "СНЕГУРОЧКУ ВЫЗЫВАЛИ?" 1985 г.
17.05 Комедийная новелла Владимира Семакова "ПРИЯТНОГО АППЕТИТА". (Из альманаха "СОВЕРШЕННО СЕРЬЕЗНО". 1961 г.).
17.15 Любовь Виролайнен в криминальной драме Валерия Гурьянова "СРЕДЬ БЕЛА ДНЯ..." 1983 г.
18.40 Николай Фоменко в комедии Владимира Машкова "СИРОТА КАЗАНСКАЯ". 1997 г.
20.05 "10 и 1 история Ираклия Квирикадзе". История 7-я.
20.15 Сериал "Д.Д.Д. ДОСЬЕ ДЕТЕКТИВА ДУБРОВСКОГО". 12-я серия. "СМЕРТЬ МЕФОДИЯ".
21.10 КиНовости.
21.20 Ольга Остроумова в мелодраме Евгения Матвеева "ЛЮБОВЬ ЗЕМНАЯ". 1974 г.
22.55 Евгений Белоногов в кинодраме Владимира Василькова "А В РОССИИ ОПЯТЬ ОКАЯННЫЕ ДНИ". 2 серии. 1990 г. Д-13.

### МИР КИНО

9,35 КиНовости.
9.45 Фрэнсис О'Коннор и Мэтт Дэй в триллере Билла Беннетта "ПОЦЕЛУЙ ИЛИ УБЕЙ" (Австралия). Д-13.
11.20 Эрик Штольц и Бриджит Фонда в комедийной мелодраме "МИСТЕР РЕВНОСТЬ" (США). Д-17.
13.00 Эйгл Олафсон в историко-приключенческом фильме Храфна Гуннлаугссона "ТЕНЬ ВОРОНА" (Исландия - Швеция). Д-13.
14.45 Клифф Гормен и Сьюзан Тиррел в боевике Роберта Винсента О'Нила "АНГЕЛ" (США). Д-17
16.20 КиНовости.
16.35 Пайпер Лори, Джули Стрэйн и Джим Метцлер в психологической драме Хоупа Парелло "ДЕНЬ СВЯТОГО ПАТРИКА" (Канада). Д-13.
18.25 Бетси Рассел и Рори Кэлхоун в боевике Роберта Винсента ОНила "МЕСТЬ АНГЕЛА" (США). Д-17.
20.00 Ринго Старр в комедии "СЕКСТЕТ" (Великобритания). Д-13.
21.30 КиНовости.
21.45 Дольф Лундгрен в боевике Дерби Блэка "ЧИСТИЛЬЩИК" (США). Д-17.
23.20 - 0.45 Майкл Мориарти, Пол Сорвино и Дэнни Айелло в фильме ужасов Ларри Коэна "СМЕРТЕЛЬНЫЙ ДЕСЕРТ" (США). Д-17.

### СПОРТ

9.00 "Пресс-центр"
9.15 Аэробика
9.40 Тхэквондо. Международный турнир "Кубок Петра Великого". Передача из Санкт-Петербурга
10.40 Баскетбол. Обзор матчей Евролиги ULEB
11.00 "Звездный вторник"
12.00 "Пресс-центр"
12.15 Аэробика
12.40 "Современная горнолыжная школа"
12.55 "Фан-клуб американского футбола"
13.25 Еврохоккейный тур. Кубок "Балтики" Сборная Чехии - сборная Финляндии. Прямая трансляция из Дворца спорта "Лужники". Во втором перерыве (14.55)- "Пресс-центр
15.50 "Спортивный глобус"
16.35 "Мастер-класс". Шахматная школа
16.55 Гонки на катерах. Чемпионат мира в классе 1
17.25 Еврохоккейный тур. Кубок "Балтики" Сборная России - сборная Швеции. Прямая трансляция из Дворца спорта "Лужники". В первом перерыве (18.05) - "Пресс-центр"
20.00 "Пресс-центр"
20.20 Баскетбол. Евролига ULEB. "Санкт-Петербург Лайонс" (Россия)- "Цибона" (Хорватия). Передача из Санкт-Петербурга
21.50 Шахматы. Чемпионат мира ФИДЕ. Финал
22.20 "Снежный мир". Тележурнал
22.50 "Power week - неделя НХЛ"
23.20 Новости
23.35 Теннис. "Русский Кубок" подводит итоги века

## Чацвер, 21

### НАШЕ КИНО

9.05 Владимир Меньшов в мелодраме Валентина Морозова "СНЕГУРОЧКУ ВЫЗЫВАЛИ?" 1985 г.
10.10 КиНовости.
10.20 Любовь Виролайнен в криминальной драме Валерия Гурьянова "СРЕДЬ БЕЛА ДНЯ..." 1983 г.
11.45 Комедийная новелла Владимира Семакова "ПРИЯТНОГО АППЕТИТА". (Из альманаха "СОВЕРШЕННО СЕРЬЕЗНО". 1961 г.).
11.55 Николай Фоменко в комедии Владимира Машкова "СИРОТА КАЗАНСКАЯ". 1997 г.
13.15 "10 и 1 история Ираклия Квирикадзе". История 7-я.
13.25 Сериал "Д.Д.Д. ДОСЬЕ ДЕТЕКТИВА ДУБРОВСКОГО". 12-я серия. "СМЕРТЬ МЕФОДИЯ".
14.20 Ольга Остроумова в мелодраме Евгения Матвеева "ЛЮБОВЬ ЗЕМНАЯ". 1974 г.
15.50 КиНовости.
16.00 Елена Фадеева и Иннокентий Смоктуновский в кинодраме Анатолия Эфроса "ВИСОКОСНЫЙ ГОД". 1961 г.
17.30 Анатолий Ромашин в мюзикле Евгения Гинзбурга "РЕЦЕПТ ЕЕ МОЛОДОСТИ". 1983 г.
18.55 "10 и 1 история Ираклия Квирикадзе". История 8-я.
19.05 Сериал "Д.Д.Д. ДОСЬЕ ДЕТЕКТИВА ДУБРОВСКОГО". 13-я серия. "ТАЙНА ДВУХ ИРИНАРХОВЫХ".
20.00 КиНовости.
20.10 Валерия Заклунная в кинОромане Евгения Матвеева "СУДЬБА". 2 серии. 1977 г.
22.55 Динара Друкарова в криминальной драме Алексея Балабанова "ПРО УРОДОВ И ЛЮДЕЙ". 1998 г. Д-17.

### МИР КИНО

9.35 КиНовости.
9.45 Дольф Лундгрен в боевике Дерби Блэка "ЧИСТИЛЬЩИК" (США). Д-17.
11.20 День рождения звезды. Сэмюэль Л. Джексон. Сэмюэль Л. Джексон, Джефф Голдблюм, Джон Ловитц и Чич Марин в комедии "ВЕЛИКИЙ БЕЛЫЙ ОБМАН" (США). Д-17. Премьера.
12.50 Пайпер Лори, Джули Стрэйн и Джим Метцлер в психологической драме Хоупа Парелло "ДЕНЬ СВЯТОГО ПАТРИКА" (Канада). Д-13.
14.40 Бетси Рассел и Рори Кэлхоун в боевике Роберта Винсента О"Нила "МЕСТЬ АНГЕЛА" (США). Д-17.
16.15 Мэй Уэст, Тимоти Далтон, Дом Де Луиз, Тони Кертис и Ринго Старр в комедии "СЕКСТЕТ" (Великобритания). Д-13.
17.45 КиНовости.
18.00 Майкл Фаустино, Сэм Беренс и Дебби МакЛеод в приключенческом фильме Джанетто Де Росси "ТАММИ" (Италия). С.
19.35 Джеймс Руссо, Гэри Бьюзи и Род Стайгер в криминальном фильме Джеймса Мерендино "СЕРЬЕЗНОЕ ДЕЛО" (США). Д-13.
21.00 КиНовости.
21.15 День рождения звезды. Сэмюэль Л. Джексон. Сэмюэль Л. Джексон, Джефф Голдблюм, Джон Ловитц и Чич Марин в комедии "ВЕЛИКИЙ БЕЛЫЙ ОБМАН" (США). Д-17. Премьера.
22.45 - 0.30 Даниэль Ольбрыхский и Станислава Целиньска в драме Анджея Вайды "ПЕЙЗАЖ ПОСЛЕ БИТВЫ" (Польша). Д-17.

### СПОРТ

9.00 "Пресс-центр"
9.15 Аэробика
9.40 Шахматы. Чемпионат мира ФИДЕ. Финал
10.10 Еврохоккейный тур. Кубок "Балтики" Сборная России - сборная Швеции
12.10 "Пресс-центр"
12.25 Аэробика
12.50 "Мастер-класс". Шахматная школа
13.10 "Power week - неделя НХЛ"
13.40 Баскетбол. Евролига ULEB. "Санкт-Петербург Лайонс" (Россия)- "Цибона" (Хорватия)
15.10 "Пресс-центр"
15.25 Бокс. Международный турнир
16.25 "Мир скорости". Тележурнал
16.55 "Хоккейный вечер"
17.35 "Пресс-центр"
17.55 Волейбол. Лига чемпионов. Мужчины. "Жихострой" (Чехия) - "Белогорье- Динамо" (Россия). Прямая трансляция из Чехии.
19.30 Баскетбольное обозрение NBA
20.15 "Теннис АТР". Тележурнал
20.45 Шахматы. Чемпионат мира ФИДЕ. Финал
21.15 Баскетбол. Евролига ULEB. "Олимпиакос" (Греция) - "Олимпия" (Словения). Прямая трансляция
23.00 Новости
23.15 "Мир скорости". Тележурнал
23.45 "Хоккейный вечер"
0.15 "Теннис АТР". Тележурнал

## Пятніца, 22

### НАШЕ КИНО

9.05 Елена Фадеева и Иннокентий Смоктуновский в кинодраме Анатолия Эфроса "ВИСОКОСНЫЙ ГОД". 1961 г.
10.35 КиНовости.
10.45 Валерия Заклунная в кинороманe Евгения Матвеева "СУДЬБА". 2 серии. 1977 г.
13.25 "10 и 1 история Ираклия Квирикадзе". История 8-я.
13.35 Сериал "Д.Д.Д. ДОСЬЕ ДЕТЕКТИВА ДУБРОВСКОГО". 13-я серия. "ТАЙНА ДВУХ ИРИНАРХОВЫХ".
14.30 Анатолий Ромашин в мюзикле Евгения Гинзбурга "РЕЦЕПТ ЕЕ МОЛОДОСТИ". 1983 г.
16.00 КиНовости.
16.10 Петронелла Баркер в приключенческом фильме Станислава Ростоцкого "И НА КАМНЯХ РАСТУТ ДЕРЕВЬЯ". 2 серии. СССР - Норвегия. 1985 г.
18.30 Мультфильм "Про злую мачеху". 1966 г.
18.50 "Светлый путь". Век кино.
19.00 Черно-белое золото. Надежда Румянцева, Юрий Белов, Алексей Кожевников и Юрий Никулин в комедии Юрия Чулюкина "НЕПОДДАЮЩИЕСЯ". 1959 г.
20.15 "10 и 1 история Ираклия Квирикадзе". История 9-я.
20.25 Сериал "Д.Д.Д. ДОСЬЕ ДЕТЕКТИВА ДУБРОВСКОГО". 14-я серия. "ЧЕРНЫЕ ФЛЮИДЫ".
21.15 КиНовости.
21.25 Евгения Глушенко, Николая Волков, Светлана Смирнова и Валентина Телечкина в мелодраме Иосифа Хейфица "ВПЕРВЫЕ ЗАМУЖЕМ". 1979 г.
23.05 Александра Захарова, Алексей Серебряков, Никита Джигурда и Игорь Бочкин в авантюрной комедии Александра Полынникова "ТОНКАЯ ШТУЧКА". 1999 г.

### МИР КИНО

9.35 КиНовости.
9.45 Даниэль Ольбрыхский и Станислава Целиньска в драме Анджея Вайды "ПЕЙЗАЖ ПОСЛЕ БИТВЫ" (Польша). Д-17.
11.30 Берт Рейнолдс и Сибил Шеперд в музыкальном фильме Питера Богдановича "ЗАПОЗДАЛАЯ ЛЮБОВЬ" (США). Д-13.
13.15 Майкл Фаустино, Сэм Беренс и Дебби МакЛеод в приключенческом фильме Джанетто Де Росси "ТАММИ" (Италия). С.
14.50 Джеймс Руссо, Гэри Бьюзи и Род Стайгер в криминальном фильме Джеймса Мерендино "СЕРЬЕЗНОЕ ДЕЛО" (США). Д-13.
16.15 КиНовости.
16.30 Джон Туртурро, Лили Тейлор и Уилл Паттон в комедии Брэндона Коула "ГАРАЖ" (США). Д-13.
18.05 Берт Рейнолдс и Сибил Шеперд в музыкальном фильме Питера Богдановича "ЗАПОЗДАЛАЯ ЛЮБОВЬ" (США). Д-13.
19.55 Вайнона Райдер и Кристиан Слейтер в "черной" комедии Майкла Леманна "СМЕРТЕЛЬНОЕ ВЛЕЧЕНИЕ" (США). Д-13.
21.35 КиНовости.
21.50 Джулия Ормонд, Гэбриэл Бирн, Ричард Харрис, Ванесса Рэдгрейв и Роберт Лоджа в детективе Билле Августа "СНЕЖНОЕ ЧУТЬЕ СМИЛЛЫ" (Дания - ФРГ - Швеция). Д-13.
23.55 - 1.35 Анна Аммирати и Серена Гранди в эротической комедии Тинто Брасса "ШАЛУНЬЯ" (Италия). Д-17.

### СПОРТ

9.00 "Пресс-центр"
9.15 Аэробика
9.40 Шахматы. Чемпионат мира ФИДЕ. Финал
10.10 Баскетбол. Евролига ULEB. "Олимпиакос" (Греция) - "Олимпия" (Словения).
11.40 "Мастер-класс". Шахматная школа
12.00 "Пресс-центр"
12.15 Аэробика
12.40 "Мир скорости". Тележурнал
13.10 Волейбол. Лига чемпионов. Мужчины. "Жихострой" (Чехия)- "Белогорье- Динамо" (Россия)
14.40 "Теннис АТР". Тележурнал
15.10 "Пресс-центр"
15.25 "Хоккейный вечер"
15.55 Баскетбольное обозрение NBA
16.25 "Тайский бокс"
17.20 "Пресс-центр"
17.35 Автогонки. "Ралли Исландии"
18.30 Сидней-2000. P. S. Бокс
20.00 "Щит и мяч". Передача о баскетболе
20.30 "Пресс-центр"
20.50 "Снежный мир". Тележурнал
21.20 Шахматы. Чемпионат мира ФИДЕ. Финал
21.50 Гимнастика. Шоу "Олимпийские звезды". Передача из Франции. В перерыве (23.00) - Новости

## Субота, 23

### НАШЕ КИНО

9.05 Александр Тимошкин и Петронелла Баркер в приключенческом фильме Станислава Ростоцкого "И НА КАМНЯХ РАСТУТ ДЕРЕВЬЯ". 2 серии. СССР - Норвегия. 1985 г.
11.25 КиНовости.
11.35 Мультфильм "Про злую мачеху". 1966 г.
11.55 Черно-белое золото. Надежда Румянцева, Юрий Белов, Алексей Кожевников и Юрий Никулин в комедии Юрия Чулюкина "НЕПОДДАЮЩИЕСЯ". 1959 г.
13.10 "10 и 1 история Ираклия Квирикадзе". История 9-я.
13.20 Сериал "Д.Д.Д. ДОСЬЕ ДЕТЕКТИВА ДУБРОВСКОГО". 14-я серия. "ЧЕРНЫЕ ФЛЮИДЫ".
14.15 "Светлый путь". Век кино.
14.25 Евгения Глушенко, Николая Волков, Светлана Смирнова и Валентина Телечкина в мелодраме Иосифа Хейфица "ВПЕРВЫЕ ЗАМУЖЕМ". 1979 г.
16.00 Звездный билет. Дмитрий Харатьян в кинодраме Владимира Меньшова "РОЗЫГРЫШ". 1976 г.
17.30 Лекарство против стресса. Георгий Вицин, Всеволод Кузнецов, Павел Кадочников и Татьяна Конюхова в комедии Семена Тимошенко "ЗАПАСНОЙ ИГРОК". 1954 г.
18.50 "10 и 1 история Ираклия Квирикадзе". История 10-я.
19.00 Мультфильм "Сказка сказок". 1979 г. Режиссер Юрий Норштейн.
19.30 Евгений Киндинов, Елена Коренева, Ирина Купченко, Иннокентий Смоктуновский и Александр Збруев в романтической мелодраме Андрея Кончаловского "РОМАНС О ВЛЮБЛЕННЫХ". 2 серии. 1974 г.
21.40 Валерий Гаркалин и Елена Сафонова в криминальной драме Сергея Бодрова "КАТАЛА". 1989 г. Д-17.
23.00 Лекарство против стресса. Александр Панкратов-Черный, Александр Абдулов, Елена Цыплакова, Ирина Розанова и Ирина Шмелева в комедии Анатолия Эйрамджана "ЗА ПРЕКРАСНЫХ ДАМ!" 1989 г.

### МИР КИНО

9.35 Джон Туртурро, Лили Тейлор и Уилл Паттон в комедии Брэндона Коула "ГАРАЖ" (США). Д-13.
11.05 Рой Шайдер, Тони Ло Бьянко и Ларри Хейнс в боевике Филипа Д'Антони "ОТ СЕМИ И ВЫШЕ" (США). Д-13.
12.45 Джулия Ормонд, Гэбриэл Бирн, Ричард Харрис, Ванесса Рэдгрейв и Роберт Лоджа в детективе Билле Августа "СНЕЖНОЕ ЧУТЬЕ СМИЛЛЫ" (Дания - ФРГ - Швеция). Д-13.
14.50 Вайнона Райдер и Кристиан Слейтер в "черной" комедии Майкла Леманна "СМЕРТЕЛЬНОЕ ВЛЕЧЕНИЕ" (США). Д-13.
16.35 Джон Траволта, Эмма Томпсон, Билли Боб Торнтон и Кэти Бейтс в трагикомедии Майка Николса "ОСНОВНЫЕ ЦВЕТА" (США). Д-13.
18.55 Премия "Оскар". Лучшие операторы.
19.25 Сьюзен Сэрэндон, Ванесса Редгрейв, Билл Мюррей, Джеми Шеридан и Джон Туртурро в драме Тима Роббинса "КАЧАЙСЯ, КОЛЫБЕЛЬ" (США). Д-17.
21.40 Рой Шайдер, Тони Ло Бьянко и Ларри Хейнс в боевике Филипа Д'Антони "ОТ СЕМИ И ВЫШЕ" (США). Д-13.
23.25 - 1.20 Джонни Депп, Джульетт Льюис и Леонардо Ди Каприо в драме Лассе Хальстрема "ЧТО ДОСТАЕТ ГИЛБЕРТА ГРЕЙПА" (США). Д-13.

### СПОРТ

2.00 Баскетбол. Чемпионат НБА. "Филадельфия-76"- "Нью-Йорк Никс". Прямая трансляция из США
По окончании трансляции в программе перерыв до 9.00
9.00 "Пресс-центр"
9.15 Аэробика
9.40 Баскетбол. Чемпионат НБА. "Филадельфия-76"- "Нью-Йорк Никс". Передача из США
12.10 "Пресс-центр"
12.25 Аэробика
12.50 Шахматы. Чемпионат мира ФИДЕ. Финал
13.30 Спортивные танцы. Гран-При "Южная столица". Передача из Ростова-на-Дону. Часть 1-я
15.00 "Пресс-центр"
15.15 "Снежный мир". Тележурнал
15.45 "Щит и мяч". Передача о баскетболе
16.15 Сидней 2000. P. S. Водное поло
18.15 Американский футбол. События недели
18.45 Баскетбол. Обзор матчей Евролиги ULEB
19.10 "Пресс-центр"
19.30 "Большой ринг"
21.30 Баскетбол. Чемпионат НБА. "Филадельфия-76"- "Нью-Йорк Никс". Передача из США. В перерыве (23.00) - Новости

## Нядзеля, 24

### НАШЕ КИНО

9.05 Звездный билет. Дмитрий Харатьян в кинодраме Владимира Меньшова "РОЗЫГРЫШ". 1976 г.
10.35 Татьяна Конюхова в комедии Семена Тимошенко "ЗАПАСНОЙ ИГРОК". 1954 г.
11.55 "10 и 1 история Ираклия Квирикадзе". История 10-я.
12.05 Александр Збруев в романтической мелодраме Андрея Кончаловского "РОМАНС О ВЛЮБЛЕННЫХ". 2 серии. 1974 г.
14.15 Мультфильм "Сказка сказок". 1979 г. Режиссер Юрий Норштейн.
14.45 Валерий Гаркалин и Елена Сафонова в криминальной драме Сергея Бодрова "КАТАЛА". 1989 г. Д-17.
16.00 Лариса Удовиченко в музыкальной комедии Яна Фрида "ЛЕТУЧАЯ МЫШЬ". 2 серии. 1979 г.
18.15 ДЕЛО №... Михаил Боярский и Валентин Гафт в детективе Александра Муратова "ТАМОЖНЯ". 1982 г.
19.30 Лекарство против стресса. Юрий Никулин, Нина Гребешкова, Андрей Миронов, Анатолий Папанов и Нонна Мордюкова в эксцентрической комедии Леонида Гайдая "БРИЛЛИАНТОВАЯ РУКА". 1968 г.
21.05 "10 и 1 история Ираклия Квирикадзе". История 11-я.
21.10 Чулпан Хаматова, Мориц Бляйбтрой, Ато Мухамеджанов и Николай Фоменко в кинопритче Бахтиёра Худойназарова "ЛУННЫЙ ПАПА". Россия - Германия - Австрия - Швейцария - Франция - Япония - Таджикистан. 1999 г. Д-13.
23.00 Дело №... Василий Мищенко, Игорь Шавлак, Татьяна Корецкая, Олег Шкловский и Игорь Ливанов в детективе Игоря Шавлака и Василия Мищенко "КРУТЫЕ. ДЕЛО № 1: СМЕРТЕЛЬНОЕ ШОУ". 1998 г.

### МИР КИНО

9.35 Джонни Депп, Джульетт Льюис и Леонардо Ди Каприо в драме Лассе Хальстрема "ЧТО ДОСТАЕТ ГИЛБЕРТА ГРЕЙПА" (США). Д-13.
11.30 Премия "Оскар". Лучшие операторы.
12.00 Экранизация. "БЭЗИЛ". Фильм Рады Бхарадвадж по роману Уилки Коллинза. В главных ролях: Кристиан Слейтер и Дерек Якоби (США - Великобритания). Д-17.
13.40 Сьюзен Сэрэндон, Ванесса Редгрейв, Билл Мюррей, Джеми Шеридан и Джон Туртурро в драме Тима Роббинса "КАЧАЙСЯ, КОЛЫБЕЛЬ" (США). Д-17.
15.50 Джон Траволта, Эмма Томпсон, Билли Боб Торнтон и Кэти Бейтс в трагикомедии Майка Николса "ОСНОВНЫЕ ЦВЕТА" (США). Д-13.
18.10 Марк Дакаскос в боевике Марка Л. Лестера "БАЗА" (США). Д-13.
19.50 Джудит Лайт, Джей Томас, Линда Соренсен и Робин Данн в мелодраме Теда Котчеффа "СТРАННЫЕ ДЕЛА" (США). Д-17.
21.25 Тришиа Ли Фишер, Лиза Лорент и Патриция Аркетт в криминальной комедии "УМНИЦЫ" (США). Д-17.
22.50 Кэтрин МакКормак, Рэйчел Уэйз, Анна Фрил и Стивен Макинтош в мелодраме Дэвида Лиланда "ПРОСТЫЕ ДЕВУШКИ" (Великобритания). Д-17.
0.40 Тиль Швайгер в комедии "САМЫЙ ЖЕЛАННЫЙ МУЖЧИНА" (ФРГ). Д-17.

### СПОРТ

5.00 Хоккей. Чемпионат НХЛ. "Колорадо Эвеланш" - "Ванкувер Кэнакс". Прямая трансляция из США
По окончании трансляции в программе перерыв до 9.00
9.00 "Пресс-центр"
9.15 Аэробика
9.40 Хоккей. Чемпионат НХЛ. "Колорадо Эвеланш" - "Ванкувер Кэнакс". Передача из США
12.00 "Пресс-центр"
12.15 Аэробика
12.40 Баскетбол. Обзор матчей Евролиги ULEB
13.00 Спортивные танцы. Гран-При "Южная столица". Передача из Ростова-на-Дону. Часть 2-я
14.30 "Пресс-центр"
14.45 Гонки на катерах. Чемпионат мира в классе 1
15.15 Сидней-2000. P. S. Спортивная гимнастика
17.15 Флорбол. Кубок России. Финал. Передача из Санкт-Петербурга. В перерыве (18.00) - "Пресс-центр"
19.00 "НХЛ - Плюс"
19.30 Гонки на внедорожных автомобилях. В перерыве (20.00) - "Пресс-центр"
20.50 Шахматы. Чемпионат мира ФИДЕ. Финал
21.20 Хоккей. Чемпионат НХЛ. "Колорадо Эвеланш" - "Ванкувер Кэнакс". Передача из США. В перерыве (23.00) - Новости

# РЭКЛАМА Тэлефон: (0152) 72-29-96, 72-37-14




## ПРАДАЮ

Аўтамабіль «ВАЗ-2101» (можна па запчастках). Тэл. у Свіслачы: 3-20-12 (пасля 18.00).

Учэплены вагончык на колах на базе МАЗаўскага прычэпа. Магчыма пераабсталяванне для грузаў. Паслугі пасярэднікаў аплочваюцца. Звяртацца да Дзедуль на адрас: 231100, г.Ашмяны, вуліца Аўдзеева,39.

Балконныя рамы, вагонку для абшыўкі балконаў; фаеркі, пераключальнікі да электраплітаў. Тэл. 76-50-13.

Капот да аўтамабіля «Ford Sierra», чорна-белы тэлевізар «Электрон». Вельмі танна. Тэл. 2-65-60.

Камп'ютар. Тэл. 72-29-96 (акрамя серады і выхадных - з 10.00 да 18.00) ці 44-69-03 (штодня, пасля 19.00).

Цагляны дом у в.Гродзі Ашмянскага раёна каля лесу (вадаправод, два будынкі, сад, 20 сотак зямлі). Тэл. (8-291) 21-9-25 (з 9 да 17 гадзін).

Набор мяккай мэблі: два крэслы-ложкі, канапа-ложак. Можна паасобку. Тэл. 76-19-29.

Дробную бульбу.
Тэл. 72-59-38.

Жаночыя зімовыя боты (памер 37-37,5), жаночае дэмісезонае паліто (памер 44-48), мужчынскія плашчы (памер 46-54), шэры мужчынскі касцюм (памер 48), мужчынскую джынсавую куртку (памер 50-52). Тэл. 33-79-95.

Новую пральную машыну «Мара», тэлевізар «Таўрас» (б/у) з новым кінескопам 61-ЛК-4Б-2 (можна толькі кінескоп). Тэл. 2-23-07.

Тэлевізар «Гарызонт-206». Кошт 8 у.а. Тэл. 2-65-60.

Пральную машыну (б/у) альбо на запчасткі. Тэл. 33-34-98.

Скрыпку (б/у). Тэл. у Карэлічах: 2-09-33.

## КУПЛЮ

Відэакасету «Арыстакраты акіянаў» і руска-літоўскі слоўнік. Тэл. 76-63-04 (пасля 15.00).

Гульнёвую прыстаўку «Sony Play Station» (б/у). Тэл. 2-69-92.

Машыну чарназёму альбо торфу з дастаўкай. Тэл. 72-70-60.

Курыны навоз з дастаўкай. Тэл. 6-38-26.

Месца пад гараж. Тэл. 6-88-85.

Настольную лямпу. Танна. Тэл. прац. 72-29-96 (з 10.00 да 18.00, акрамя серады і выхадных; запрасіць Святлану).

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

Старыя піўныя бутэлькі з надпісамі на шкле. Тэл. 75-33-55.

## МЯНЯЮ

1-пакаёвую кватэру ў Віцебску (2-і паверх цаглянага дома на Маркаўшчыне) на 1-пакаёвую ў Паставах, Мядзелі ці Нарачы. Тэл. у Паставах: 2-34-59.

2-пакаёвую кватэру з тэлефонам на 1-пакаёвую кватэру старой планіроўкі з тэлефонам. Звяртацца: вуліца Кляновая, дом 31, кватэра 145.

## ПАСЛУГІ

Кансультацыі, кантрольныя работы па філасофіі і праву. Тэл. 47-32-70.

Дасведчаны настаўнік пачатковых класаў дапаможа падрыхтаваць хатнія заданні. Рэпетытарства. Тэл. 76-41-09.

Распрацоўка праграмаў, устаноўка Windows ды інш.; рэпетытарства па камп'ютары. Тэл. 74-02-31.

Урокі класічнай ігры на гітары на аснове сціслага вывучэння элементарнай тэорыі музыкі і музычнай гармоніі. Тэл. 72-16-55.

Камп'ютарны набор, раздрукоўка на лазерным прынтары. Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).

Набор тэкстаў, табліцаў на камп'ютары. Раздрукоўка на струйным альбо матрычным прынтары. Танна. Не абавязкова на Вашай паперы. Тэл. 93-53-56.

Рэпетытарства па ангельскай мове. Дасведчаны высокакваліфікаваны педагог. Тэл. 72-62-79.

Набор тэкстаў, курсавых на камп'ютары. Раздрукоўка. Тэл. 44-70-03 (запрасіць Андрэя).

Польская, ангельская і балгарская мовы: пераклады, індывідуальныя заняткі. Тэл. 2-85-77, 33-09-39.

Ангельская мова: афармленне дакументацыі, анкетаў, пераклады. Тэл. 31-15-83 (запрасіць Аляксандра).

Рамонт каляровых тэлевізараў. Устаноўка ПАЛ, дыстанцыйнага кіравання, тэлетэксту. Ліцэнзія N1243, выдадзеная МП да 2004 года. Тэл. 31-37-05.

Рэпетытарства па ангельскай і нямецкай мовах. Пераклады. Тэл. 6-12-71 (пасля 18.00).

Ангельская мова для ўсіх. Тэл. 76-38-02.

Дапамагу ў выкананні задачаў, кантрольных, курсавых і дыпломных работаў па любых будаўнічых канструкцыях, супраціўленню матэрыялаў, тэарэтычнай тэхнічнай ды будаўнічай механіцы. Тэл. 72-16-55.

Рэпетытарства па фізіцы. Дапамагу ў рашэнні задачаў, кантрольных работаў. Тэл. 76-55-14 (запрасіць Юрыя).

Усё па беларускай, ангельскай і лацінскай мовах. Тэл. 33-21-83.

Выраб ксеракопіяў у вялікай колькасці. Пасведчанне N17955. Тэл. 44-14-33 (з 12.00 да 14.00).

Рэпетытарства па хіміі, біялогіі. Тэл. 31-50-27.

Набор тэкстаў на камп'ютары, сканаванне, раздрукоўка на матрычным прынтары. Тэл. 76-55-16.

Ангельская мова: пераклады і кантрольныя работы. Хутка і якасна. Тэл. 31-15-83.

Дапамагу набраць вагу ці пазбавіцца лішняе вагі і цэлюліту. Бясплатныя кансультацыі і асабістае лячэнне. Сертыф.пасведчанне N0833011992 МЗ РБ. Тэл. 31-52-42.

Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па методыцы Р.Фоля. Ліц. МЗ РБ N224 да 30.12.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

**Доктар С.Каляда**
Інтэнсіўная псіхатэрапія алкагалізму, залішняй вагі. Найноўшыя методыкі. Ліц. МЗ РБ N796 да 23.03.2004 года. Тэл. 74-35-46 (да 18.00).

Відэаздымка. Якасна, прафесійна выканаем работы па стварэнні відэафільма, відэакліпа, рэкламнага роліка. Ліцэнзія МК N613 да 2004 года. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Звяртацца: 231900, Гарадзенская вобласць, г.Ваўкавыск, а/с 17. Тэл. 2-34-36.

## РОЗНАЕ

Здыму 1-пакаёвую кватэру з тэлефонам на адзін год у раёне вул. Пушкіна, Горкага, БЛК. Тэл. 31-23-27.

Здыму кватэру (кошт да 30 у.а.). Тэл. 2-03-39.

Сям'я здыме 1-пакаёвую кватэру з тэлефонам. Тэл. 76-39-13.

Патрабуецца сталяр-станочнік. Тэл. 76-50-13.

Шукаю працу на прадпрыемстве па рамонту і зборцы мэблі. Тэл. 44-39-15.

Прапішу двох чалавек. Тэл. 6-83-19.

Шукаю працу на прадпрыемстве па падшыўцы і падклейванні падэшваў у абутку. Тэл. 31-77-41.

Здыму 1-пакаёвую кватэру з тэлефонам і мэбляй на адзін месяц. Тэл. 5-33-58 (запрасіць Святлану).

Здаю кватэру на суткі. Тэл. 72-07-70.

Шукаю працу на прадпрыемстве па абіўцы мяккай мэблі, па нарэзцы пратэктару шынаў легкавых, грузавых машынаў усіх марак. Тэл. 44-39-15.

Ахвотныя атрымаць кнігу Міколы Ермаловіча «Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае», калі ласка, дашліце замову, свой паштовы адрас і 2300 рублёў на адрас: 220131, Менск-131, п/с 268 (Алесю Міхайлавічу Сабаленку). Кнігу атрымаеце праз пошту. У Менску кнігу Міколы Ермаловіча можна набыць у сядзібе ТБМ, што месціцца ў Менску па вуліцы Румянцава,13. Тэл. 284-85-11.

Шукаю працу бухгалтара на прадпрыемстве. Досвед працы - сем гадоў, маю вышэйшую адукацыю, умею працаваць на камп'ютары. Тэл. 91-93-68 (з 9.00 да 12.00).

Замаўляйце і чытайце «Голас Краю» - газету беларускіх нацыяналістаў. Звяртайцеся на адрас: 230003, горад Гродна, а/с 100.

Паважаныя гарадзенцы! Любая ваша дапамога, міласэрнасць і проста добрыя сэрцы патрэбны Гарадзенскай арганізацыі аховы жывёлаў. Тэл. 44-92-79, 72-15-05.

Супрацоўнікі рэдакцыі ПАГОНІ нагадваюць чытачам, якія дасылаюць аб'явы ў рубрыку «Знаёмствы», пра неабходнасць указваць напрыканцы купона нумар паштовага аддзялення сувязі і сваёй абаненцкай скрыні, альбо пакідаць наступную інфармацыю: індэкс паштовага аддзялення, «да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта ці іншага дакумента...»; ці прыходзіць у рэдакцыю з купонам аб'явы і сваім пашпартам. Гэта дасць усе падставы меркаваць, што абвесткі наконт знаёмстваў належаць менавіта вам, шаноўныя чытачы, а не тым, хто жадае з вас пажартаваць.

## ЗНАЁМСТВЫ

Прывабная жанчына пазнаёміцца з добрым, інтэлігентным мужчынам да 55 гадоў, хрысціянінам, высокага росту. Пісаць: 230009, г.Гродна, да запатрабавання, прад'яўніцы пашпарта КН 0117472.

Мужчына, 33/170, пазнаёміцца з дзяўчынай (жанчынай) для сур'ёзных адносінаў. Пісаць: 230029, г.Гродна-29, прад'яўніку дакумента НБ N2455415.

Жанчына, 35/164/60, пазнаёміцца з інтэлігентным мужчынам 35-45 гадоў для litrознабаковых зносінаў. Пісаць: 230025, г.Гродна, да запатрабавання, прад'яўніцы дакумента N773666.

Мужчына, 31/174, пазнаёміцца з дзяўчынай (жанчынай) для стварэння сям'і. Пісаць: 230025, г.Гродна, да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта N556632.

## ВІНШАВАННІ

Віншуем з Днём нараджэння любімую, адзіную і ўсімі паважаную ***мамачку Алену!***

*Жыві ты доўгі-доўгі век,*
*Наш самы родны чалавек!*
*Дары сваёй душы святло -*
*З табой утульна і цяпло.*
*Анёл атуліць хай крылом*
*Цябе ад бур, хвароб і стом.*
*Мы просім Бога,*
*каб бярог цябе*
*Для нас, як толькі змог,*
*Каб ўсе дарогі на Зямлі*
*К твайму парогу нас вялі!*

**Твае Александрына і Алеся**

Віншуем з Днём нараджэння ***Марыю Сямёнаўну Алешку!***

*У Вас сягоння юбілей*
*І мы ад ўсёй душы жадаем*
*Пражыць Вам многа-многа год*
*Не ведаць гора і турбот!*
*Хай Бог пра Вас не забывае*
*І радасць дом не пакідае!*

**Вольга, Уладзімір, Эдзік**



## Гарадзенскі ўікэнд



**Гісторыка-археалагічны музей. Стары замак.** Выстава «Гродна, адкрыты археолагамі». **Новы замак.** Экспазіцыя «Зброя мінулых стагоддзяў». Круглая зала. Выстава «Вобразы далёкія і блізкія», прысвечаная 80-годдзю музея.

**Галерэя «У Майстра»** (вул. Кірава, 14). Перадсвяточная выстава-продаж «Да светлых Калядаў, Новага тысячагоддзя».

**Галерэя «Тызенгаўз»** (пл.Тызенгаўза, 4). Перадсвяточная выстава-продаж: жывапіс, кераміка, графіка, вышыўка. Уваход свабодны.

**Дызайн-галерэя «Раскоша»** (вул. Ажэшкі, 39а). Выстава антыкварыяту, керамікі, шкла, скуры і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Музей Максіма Багдановіча запрашае** з 10.00 да 18.00. Выхадныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Тэатр лялек.** 16 снежня - «Казка пра Ямелю». 17 снежня - «Папялушка». Пачатак спектакляў - у 12.00. З 22 па 31 снежня - навагоднія ранішнікі.

**Кінатэатр «Усход».** Дэманстрацыя серыяла-бэстсэлера па раманах сучаснага пісьменніка Андрэя Канстанцінава «Бандыцкі Пецярбург». 14-17 снежня - «Адвакат» (V частка); 18-20 снежня - «Адвакат» (VI частка); 21-24 снежня - «Адвакат» (VII частка). Пачатак сеансаў - 19.00.

**Кінатэатр «Чырвоная зорка».** Рэтраспектыва лепшых фільмаў усіх часоў і народаў: 14 снежня - «XX стагоддзе». Пачатак у 19.00.

**Беларуская Музычная Альтэрнатыва сумесна з агенцтвам «Линия звука»** распачынае тур «Вольныя Танцы». 15 снежня ў Брэсце ў Доме культуры прафсаюза адбудзецца канцэрт з удзелам гуртоў: «Крама», «Нейра Дзюбель», «САД» ды іншых. Пачатак а 19-й гадзіне. 23 снежня ў Гомелі ў Абласным культурным цэнтры выступяць гурты «Крама», «Крыві», «Вруцелето», «Бан Жвірба» ды іншыя. Пачатак а 19-й гадзіне. Кошт квіткоў - 500-3000 рублёў. Даведкі па тэлефонах: 227-15-32, 249-08-88.

**Моладзевыя дыскатэкі:**

**Кінатэатр «Кастрычнік»** - з 22.00 да 01.00, працуе кафэбар (серада - нядзеля).

**Палац тэкстыльшчыкаў** - з 20.00 да 24.00 (у пятніцу), з 20.00 да 01.00 (у суботу), з 20.00 да 01.00 (у нядзелю).

**Палац «Юнацтва»** - з 20.00 да 01.00.

**Гатэль «Нёман».** Начны клуб-казіно «777». Дзейнічае бар, танцавальнае шоу, казіно. Клуб адчынены з 20.00 да 06.00.

ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы

47 Імя і прозвішча ____________________

Адрас (тэлефон) ____________________

Рубрыка ____________________

Тэкст ____________________

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11

ПЯРЭСТЫ КУТ

# Сяргей Кароза: «Хочацца зрабіць для гораду сьвята»

Амаль ўсю сваю футбольную кар'еру гэты чалавек прысьвяціў гарадзенскаму футболу. Апошнія посьпехі футбалістаў з Гародні - таксама ў значнай ступені яго рук справа. Сёньня ў нас у гасьцёх Сяргей Кароза - начальнік каманды «Нёман-Белкард», якая ў сёлетнім сезоне падаравала футбольным заўзятарам нямала прыемных хвілінаў.

*- Сяргей, віншуем Вас з нядаўна адзначаным 40-годдзем! Наколькі я ведаю, гэты дзень сьвяткавалі не толькі Вы адзін?*

- Сапраўды, я нарадзіўся ў адзін дзень з братамі Саладоўнікавымі - 2 лістапада. Толькі яны на два гады за мяне старэйшыя. І саракавы дзень нараджэньня Саладоўнікавых мы таксама адзначалі разам.

*- Вы памятаеце сваю першую гульню за гарадзенскую каманду?*

- Так. Гэта было ў 1977 годзе. Наш «Хімік» гуляў супраць валагодзкага «Дынама». Паводле тагачасных правілаў, у кожнай гульні ў складзе каманды мусіў браць удзел малады гулец. Вось у такой ролі я і выйшаў на поле...

*- У 1980-м годзе ў Вас быў шанец гуляць за менскае «Дынама» у Вышэйшай лізе чэмпіянату СССР.*

- Так, у 79-м годзе мы езьдзілі на турнір «Пераправа» і там разам з Гэоргіем Кандрацьцевым трапілі «на аловак» трэнэраў з днепрапятроўскага «Дняпра». А ў студзені 80-га прыехаў начальнік менскага «Дынама» Леанід Гарай, паразмаўляў з бацькамі, сказаў, што ў мяне ёсьць пэрспэктывы, тым больш, што Малафееў мае намер сабраць усіх лепшых маладых беларускіх гульцоў і працаваць з імі. Так я й апынуўся ў Менску.

*- Што перашкодзіла там замацавацца?*

- Арзамасцаў і Малафееў верылі ў мяне, давяралі месца правага крайняга ў асноўным складзе, і на пачатку ўсё было добра. Але затым не забіў пасьля выхаду на замену маскоўскаму «Спартаку». Пасьля гэтага паехаў здаваць сэсію ў Гародню. Праз месяц вяртаюся - а на мяне ніхто аніякай увагі не зьвяртае. Даваўся цэлы месяц працаваць на тое, каб вярнуць давер. Увосень зноў пачалі падпускаць да «асновы». Зімою паехаў на сэсію. Галава ў той час крыху ня ў тым накірунку працавала - зьявіліся «сябры», выпіўкі... Карацей кажучы, быў цалкам растрэнэраваны.

*- Малафееў паўплываў на рост футбольнага майстэрства Карозы?*

- Натуральна. Ён да мяне добра ставіўся, увесь час падтрымліваў, давяраў месца ў складзе.

*- Пасьля году пабыўкі ў Менску Вы сталі лепшым бамбардырам у складзе «Хіміка».*

- Сяргей Саладоўнікаў у той час атрымаў траўму. Давялося браць абавязкі галеадора на сябе. Забіў 10 галоў, аддаў шмат перадачаў. А ў 1983 годзе мяне прызвалі ў войска. Так зьявілася магчымасць пагуляць у савецкай першай лізе за смаленскую «Іскру».



Сяргей Кароза

*- У час службы ў войску у Вас была яшчэ адна магчымасьць працягнуць кар'еру ў складзе каманды Вышэйшай лігі.*

- У студзені 1983 году я някепска адгуляў на першынстве Ўзброеных Сілаў у Маскве і ЦСКА запрасіў мяне на зборы. Мог там застацца, гуляць на пачатку за «дубль», але вырашыў вярнуцца ў Смаленск. Там я адгуляў цэлы сезон, забіў чатыры важныя мячы. Пазьней, дарэчы, я не раз заўважаў, што часьцяком забіваў галы, якія прыносілі камандзе перамогу...

*- Паказальнымі ў гэтым сэнсе зьяўляюцца галы, забітыя Вамі ў першым нацыянальным чэмпіянаце й Кубку краіны.*

- У 92-м нібы другое дыханьне адчынілася. Хацелася гуляць, як маладому, сілы былі. Забіў сем галоў. Хацеў стаць лепшым бамбардырам краіны. Ды і гледачы хадзілі.

*- Чаму пасьля заваяваньня Кубка краіны Вы пакінулі каманду?*

- У паўфінале Кубка мы гулялі супраць сталічнага «Дынама» і ўпэўненасьці ў тым, што мы «пройдзем» дынамаўцаў не было шмат у каго з гульцоў. Я, аднак, верыў і стараўся падбадзёрваць хлопцаў. Гэтыя гульні забралі ў мяне столькі сілаў...

Пасьля Кубка каманда расслабілася. Да таго ж з-за розных падводных плыняў «старычкі» аказаліся непатрэбнымі. Акурат у гэты момант Сяргей Няфёдаў вярнуўся з Польшчы і запрасіў у «Кардан-Флаерс».

*- Але перад гэтым былі гульні ў Кубку ўладальнікаў Кубкаў эўрапэйскіх краінаў.*

- Удзел у Кубку кубкаў быў чымсьці неверагодным. Калі б мы прайшлі «Лугана» (а зрабіць гэта можна было), то трапялі б на мадрыдскі «Рэал»! Лічу, што тут мелі месца трэнэрскія памылкі з вызначэньнем складу.

*- Для Вас гэта былі не першыя гульні на міжнароднай арэне.*

- Так, у 1979-м годзе ў складзе юнацкай зборнай СССР змагаўся за выхад у фінальную частку чэмпіянату Эўропы. У заключнай гульні з румынамі ў Запарожжы нам патрэбна была перамога. Два таймы «сядзелі» на чужой браме, не забілі пенальці. У выніку 0:0 - і мы не трапілі ў фінал.

*- Вернемся, аднак, у Гародню. Праз нейкі час Вы зноў вярнуліся ў «Нёман».*

- Спатрэбіліся «старычкі», якія б згуртавалі калектыў. Спачатку прыйшоў Сяргей Саладоўнікаў, затым запрасілі мяне і Мазурчыка.

*- Як прайшоў пераход на трэнэрскую працу?*

- Спачатку хацелася гуляць, гуляць, гуляць. Але разумеў, што на патрэбным узроўні гэта не дазволіць зрабіць здароўе. Так вось паступова і перакваліфікаваўся. Але і зараз трэнэруюся разам з камандай, падтрымліваю форму.

*- У Вас ёсьць сапраўдныя сябры?*

- З Мазурчыкам і Саладоўнікавым мы разам ужо 20 гадоў і ўпэўнены адзін у адным. Калі ў камандзе ёсьць аднадумцы - гэта цудоўна, тады можна спакойна працаваць. Самае страшнае ў жыцьці - здрада.

*- Вы дасягнулі ўсяго, чаго хацелі?*

- Калі быў маладым, хацеў патрапіць у зборную Беларусі, Саюзу, гуляць у Вышэйшай лізе. На пачатку 90-х хацелася годна выглядаць на сконе кар'еры.

*- А чаго яшчэ хацелі б дасягнуць?*

- Чалавек, які заваёўваў Кубак, палае жаданьнем паўтарыць гэты посьпех. Хочацца таксама вярнуць гледача на стадыён, зрабіць для гораду сьвята.

**У апошнім сезоне «Нёман-Белкард» на чале з трэнэрскім тандэмам Саладоўнікаў-Кароза вярнуў на стадыён многіх заўзятараў, якія ўжо было расчараваліся ў камандзе. Чацьвёртае месца ў сезоне на фоне папярэдніх няўдачаў выглядае сапраўдным прарывам. Разам з тым - гэта новы пункт адліку. Любое месца ніжэй сёлетняга будзе крокам назад, і трэнэрскі штаб гарадзенцаў гэта добра разумее.**

**Дзяніс Курчэўскі, «Школа маладога журналіста-5»**

1.Самая малая колькасць чаго-небудзь (разм.). 2.Месца, дзе была печ. 3.Старадаўняе рачное судна, падобнае на барку, для перавозкі грузаў (найчасцей збожжа). 4.Пранырлівы чалавек, спрытнюга. 5.Травяністая расліна, з карэння якой атрымліваюць чырвоную фарбу. 6.Два дні таму (прысл.). 7.Гарачая страва з маладых буракоў на рошчыне ці сыроватцы.



## Адказы на чайнворд, змешчаны ў N46 (493)

1.Ганарата. 2.Атол. 3.Лаўсан. 4.Націна. 5.Антрапаген. 6.Навігацыя. 7.Яранга. 8.Абора. 9.Асцё.

# Афанарызмы!! Афанарызмы!!!

Соль і цукар - белая смерць. Лес і гарэлка - зялёныя сябры!

***

«Пасля дзесятага тосту ён нарэшце адчуў сябе ў сваёй талерцы...»

***

Заўсёды турбавала пытанне - што перашкаджае кепскім танцоркам?

***

Цыгарэта дапамагае прабавіць жыццё.

***

Каханне дапамагае забіць час, час дапамагае забіць каханне.

***

Каханне - гэта вам не проста так, ім трэба займацца.

***

Колькі воўка не карміў, ён усё роўна воўкам глядзіць.

***

Каханне - гэта калі табе хочацца не толькі класціся з чалавекам у ложак, але і прачынацца разам з ім.

***

«Надвор'е не спраўдзіла ўскладзеных на яго прагнозаў»...

***

У чужы тэрарыум са сваім удавам не ходзяць.

***

Эгейскае мора - толькі для эгеяў.

***

Ляжачага не б'юць, яго дабіваюць.

***

«...Ужо не кажучы пра тых, хто прастытуцыяй займаецца эпізадычна, у якасці прыбаўкі да пенсіі...»

***

Вясельная клятва: «Век волі не бачыць!»

***

«Я не злапамятны: проста я злы, і памяць у мяне добрая».

***

Дзяўчаты - як месцы для паркоўкі: крыху замарудзіў, а лепшыя ўжо занятыя...

***

Каб скончыць з войнамі назаўсёды, 'трэба ўсім добрым людзям згуртавацца і забіць усіх дрэнных...

***

«Панурую цішыню парушала толькі ўсеагульнае маўчанне»...

***

Нечаканы муж горш за татарына.

***

Не існуе невыносных жанчын, бываюць вузкія дзверы.

***

«Анекдоты бываюць розныя. А я люблю сала»...

***

Не саромцесь расіяне сцяга вы свайго - ён жа з «Аквафрэшам» колеру аднаго!

***

Экзамен на фізтэху. Прафесар пытаецца:

- Што такое конская сіла?

Студэнт, не задумваючыся, адказвае:

- Гэта сіла, якую развівае конь ростам у адзін метр і вагою ў адзін кілаграм!

- Цікава! І дзе ж вы бачылі такога каня?

- А яго не так проста ўбачыць! Ён захоўваецца ў Парыжы ў Палаце мераў і вагаў.

ПАРАДЫ АХВОТНІЦАМ

# Як стаць мадэлькай

**Знакаміты стандарт фігуры 90х60х90 - сам па сабе ні грошай, ні славы яго ўладальніцы не прыносіць. Для поспеху трэба нешта яшчэ, што растлумачыць часам немагчыма.**

1. Пачынаць думаць пра тое, як ашаламіць свет сваёй прыгажосцю, трэба змалку. Знаная топ-мадэлька Лінда Евангеліста марыла пра сваю прафесію з 10-ці гадоў, а пачала кар'еру з перамогі ў конкурсе «Міс Ніягара» сярод цінэйджарак.

2. Мучыць сябе дыетамі і фізічнымі практыкаваннямі трэба пачынаць як мага раней. Прыкладаць усе намаганні, каб захаваць маладосць.

3. Не курыць і не піць спіртных напояў.

4. Штодня выпіваць не меней як два літры вады, соку, чаю.

5. Добра высыпацца.

6. Рэгулярна піць марковы і яблычны сок - гэта лепшы сродак для выдатнага колеру твару.

7. Есці шмат садавіны і гародніны, рыбу, крыху мяса.

8. Выключыць з рацыёну харчавання малочныя прадукты (апроч сыру), шакалад ды іншыя ласункі.



9. Трэба паспрабаваць не пераядаць. Да прыкладу, Клаўдзія Шыфер спажывае не больш за 1900 калорыяў на дзень. На снеданне - шклянка апельсінавага соку, садавіна (манга, абрыкос, яблык, дыня) і вітаміны. На абед - курыная грудка, варанае яйка і зялёная салата. На полудзень - полівітаміны з мікраэлементамі, адвар з гаючых зёлак, шклянка таматнага або вінаграднага соку. На вячэру - гародніна, згатаваная на пары, зялёная салата. На ноч - порцыя вітамінаў, ніякай кавы і малочных прадуктаў.

10. І яшчэ адна парада ад топ-мадэлькі і галівудскай зоркі Монікі Белуччы: «Каб быць прыгажуняй, мала быць проста мілавіднай, трэба выпраменьваць нешта чароўнае, нейкую асаблівую энергію»...

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Ёсць верагоднасць, што гэты тыдзень не верне Вас да праблемаў мінулага, калі паспрабуеце ні з кім не канфліктаваць.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Варта было б сур'ёзна задумацца наконт зменаў у Вашым асабістым жыцці. Стан справаў усё настойлівей гэтага патрабуе.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Паспрабуйце рэалізаваць усе Вашыя свежыя ідэі, пакуль нікто не перашкаджае.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Пасля плённых будняў прысвяціце больш часу сям'і, наведайце разам знаёмых.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Гэты тыдзень будзе багаты на сустрэчы і не зусім дзелавыя кантакты. Будзьце напагатове.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Мабілізацыя ўсіх Вашых ведаў, таленту і майстэрства дапаможа ў дасягненні даўняй задумы.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** З-за ўмяшальніцтва сваякоў Вашыя справы зменяцца да непазнавальнасці. На шчасце, сябры падтрымаюць.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Зоркі варожаць Вам поспех і ўдачу ва ўсіх справах, калі Вы не будзеце злоўжываць спіртным.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** На гэтым тыдні Вам давядзецца зрабіць асэнсаваны выбар, наўпрост звязаны з Вашым асабістым жыццём.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Варта меней скандаліць і спрачацца з калегамі, бо нічога станоўчага з гэтага не атрымаецца.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** З паездкамі лепш крыху пачакаць, а пакуль заняцца сваёй знешнасцю.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Дзеці, сям'я, хатнія абавязкі - на гэтых момантах Вам належыць надзвычай сканцэнтраваць сваю ўвагу.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Нумар падпісаны да друку ў 16.00 13.12.2000 г. Замова 3 804 - Наклад 7 357

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць пагляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей